ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№9 (114) верасень 2020 год
CATHOLICNEWS.BY

# Ці ўмешваецца арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч у палітыку?



**Не так даўно адна верніца задала мне пытанне: “Ксёндз Віктар, скажыце, чаму арцыбіскуп Кандрусевіч умешваецца ў палітыку”? Думаю, адказ на гэтае пытанне будзе цікавым і для чытачоў “Каталіцкага Весніка”.**

Многія, разважаючы пра паслугу біскупаў у Каталіцкім Касцёле, не да канца разумеюць іх місію і заданні. Бачачы біскупа, як той удзяляе сакрамант бежмавання ці наведвае нейкую ўрачыстасць, людзям можа здавацца, што гэта і ёсць асноўная функцыя іерарха – маліцца. На самай справе гэта не так.

Так, малітва – вельмі істотны элемент духоўнага жыцця. Гэта тое, што ўмацоўвае нашую сувязь з Айцом Нябесным і дапамагае трываць у святасці. І біскупы, будучы пастырамі Касцёла, павінны самі падаваць прыклад шчырай і трывалай малітвы. Іх задача – быць праваднікамі Божай ласкі, спрыяць асвячэнню Божага народу. Аднак ёсць яшчэ дзве немалаважныя функцыі наступнікаў апосталаў. Адна з іх – гэта адміністраванне ў Касцёле, іншымі словамі, кіраванне Касцёлам, а другая – навучанне Божага народу. Каб не быць тут галаслоўным, прывяду цытату з Дэкрэта пра пастырскае служэнне біскупаў у Касцёле CHRISTUS DOMINUS.

*[Біскупы] няхай навучаюць таму, як трэба ставіцца, згодна з вучэннем Касцёла, да чалавечай асобы, яе свабоды і самога цялеснага жыцця; да сям'і, яе адзінства і трываласці, да нараджэння і выхавання патомства; да цывілізаванага грамадства, яго законаў і прафесій, працы і адпачынку, мастацтваў і тэхнічных вынаходніцтваў; да беднасці і дастатку, матэрыяльных дабротаў. Урэшце, няхай прапануюць спосабы вырашэння найважнейшых пытанняў наконт валодання матэрыяльнымі дабротамі, іх павелічэння і справядлівага размеркавання, наконт спакою і вайны, а таксама братэрскага суіснавання ўсіх народаў.*

*Біскупы павінны тлумачыць хрысціянскае вучэнне ў адпаведнасці з патрэбамі часу, каб даваць адказ на тыя цяжкасці і пытанні, якія найбольш непакояць людзей. Акрамя таго, няхай не толькі асабіста абараняюць гэтае вучэнне, але і вернікаў вучаць абараняць і пашыраць яго. Няхай гэтае вучэнне прадстаўляюць такім чынам, каб паказаць матчын клопат Касцёла пра ўсіх людзей – як вернікаў, так і нявернікаў, атуляючы асаблівым клопатам найбольш бедных і слабых, да якіх яны былі пасланыя Панам абвяшчаць Евангелле (CD 12-13).*

Як бачым, каталіцкі біскуп павінен цвёрда і адкрыта прапаведаваць Евангелле. Ён не можа заплюшчваць вочы на несправядлівасць і маўчаць тады, калі адбываецца беззаконне. На якой падставе гучаць абвінавачванні, быццам арцыбіскуп Кандрусевіч умешваецца ў палітыку? Ці быў з яго боку хоць адзін заклік галасаваць за таго ці іншага кандыдата на выбарах? Такога закліку не было. Ці быў заклік з яго боку ці з боку іншых беларускіх іерархаў уступаць або не ўступаць у нейкую палітычную партыю ці рух? Адназначна, не было. Усе прамовы, казанні і заклікі беларускіх біскупаў зводзяцца да аднаго: каб нарэшце ў Беларусі спыніўся гвалт, запанавала пашана да правоў чалавека, а складаныя сітуацыі ў грамадстве вырашаліся ў духу прымірэння і дыялогу.

Канешне, тэарэтычна любы ўчынак чалавека можна назваць палітыкай. Але ці можам мы Хрыста назваць палітыкам? Яго не любілі тагачасныя прадстаўнікі ўлады, таму што Ён абвяшчаў верхавенства Божага закону: закону любові і праўды. Менавіта за гэта Ён быў укрыжаваны. Ці можам мы назваць палітыкамі Росіцкіх мучанікаў айцоў-марыянаў Антонія Ляшчэвіча і Юрыя Кашыру, якія загінулі разам са сваімі парафіянамі падчас карнай акцыі нацыстаў у 1943г.? Яны супрацьпаставілі сябе тагачаснай акупацыйнай уладзе. Вакол іх стаялі людзі з аўтаматамі і выдавалі свае злачынныя загады аб забойстве мірных жыхароў Росіцы. Ці паставу бласлаўлёных мучанікаў мы назавём палітыкай? Адназначна, не!

Паводле роду сваёй дзейнасці (з'яўляюся канцлерам Віцебскай дыяцэзіі, па сутнасці намеснікам Біскупа Віцебскага па адміністрацыйных пытаннях) мне даводзіцца часта сустракацца з прадстаўнікамі беларускай улады ў выканкамах ці падчас нейкіх святочных мерапрыемстваў. Заўсёды гучыць даволі простае пасланне з іх вуснаў: у Касцёла ў Беларусі і беларускай улады адна супольная місія – працаваць для дабра людзэй, супрацоўнічаць для як мага найлепшага развіцця грамадства. З гэтай думкай цяжка не пагадзіцца.

Касцёл з'яўляецца моцным аўтарытэтам для беларусаў. Гэта звязана і з яго гістарычнай прысутнасцю ў краіне, і з моцным маральным пасланнем Евангелля, якое ён прапаведуе. Зразумела, што ўплыў на розумы і сэрцы людзей вялікі, бо ўсё-такі значная частка беларускага грамадства рэлігійная. І заўсёды радасна і прыемна, калі касцельныя ініцыятывы знаходзяць пазітыўны водгук і зразуменне з боку свецкай улады. Тут можна шмат пералічваць такіх момантаў: правядзенне парафіядаў для моладзі, развіццё турыстычнага напрамку праз арганізацыю пілігрымак да санктуарыяў, дабрачынная дзейнасць каталіцкага Карытас. Варта заўважыць, што адзін толькі Віцебскі Карытас на дабрачынную дзейнасць у 2019г. выдаткаваў больш за 250000 рублёў.

Хацелася б, каб так было і далей. Але што мы бачым сёння? Традыцыйная трансляцыя нядзельнай святой Імшы з Мінскай катэдры спыненая. Гэта не ўдар па духавенству. Гэта ўдар па хворых, нямоглых, састарэлых людзях, якія пазбаўленыя магчымасці ўдзельнічаць у св. Імшы.

Арцыбіскуп Кандрусевіч не можа вярнуцца ў Беларусь па рашэнні свецкіх уладаў. Ці спрыяе гэта дыялогу і супрацоўніцтву Касцёла і дзяржавы? Святар Віцебскай дыяцэзіі Юрый Вільк пазбаўлены права служыць у парафіі Варапаева. Парафія налічвае 1800 вернікаў. Хто будзе хрысціць дзяцей, хаваць памерлых, абвяшчаць Божае слова? Пакуль гэта робіць святар з суседняй парафіі. Але забарона на служэнне зноў жа з'яўляецца ўдарам менавіта па простых людзях, якія пазбаўленыя належнай святарскай паслугі.

Нам усім трэба шмат маліцца ў інтэнцыі вырашэння складанага грамадска-палітычнага крызісу ў Беларусі. І я ведаю, што чытачы “Каталіцкага Весніка” гэта робяць. Яны дасылаюць нават такія інтэнцыі св. Імшы ў рубрыку “Газетная закрыстыя”, за што ім вялікі дзякуй.

Вяртаючыся да асобы арцыбіскупа Кандрусевіча, хацеў бы нагадаць, што ў яго ёсць толькі адна інструкцыя: жыць Евангеллем і прапаведаваць Евангелле. У гэтым і заключаецца касцельная “палітыка”.

**Кс. Віктар Місевіч,**
*канцлер Віцебскай дыяцэзіі,*
*галоўны рэдактар газеты “Каталіцкі Веснік”*

# Пагранкамітэт адказаў, што пашпарт арцыбіскупа Кандрусевіча прызнаны несапраўдным.

## Іерарха пазбавілі грамадзянства?

**Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, якому 31 жніўня было забаронена вярнуцца на Радзіму, на мінулым тыдні атрымаў адказ на свой зварот па гэтым пытанні ў Дзяржаўны пагранічны камітэт Рэспублікі Беларусь, паведамляе catholic.by.**

У лісце за подпісам старшыні Дзяржаўнага пагранічнага камітэта Беларусі А. Лапо пададзена наступная прычына дзеянняў памежнікаў, якія не дазволілі Мітрапаліту Мінска-Магілёўскаму ўехаць у Беларусь.

"Паведамляем, што Вы былі не прапушчаны праз дзяржаўную граніцу ў сувязі з прынятым органамі ўнутраных спраў рашэннем аб прызнанні пашпарта грамадзяніна Рэспублікі Беларусь (пададзены нумар), які Вам належыць, несапраўдным.

Па пытанні прыняцця рашэння аб прызнанні Вашага пашпарту несапраўдным Вы маеце права звярнуцца ў Міністэрства ўнутраных спраў".

Атрымаўшы адказ з дзяржпагранкамітэта, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч звяртаецца ў Міністэрства ўнутраных спраў для высвятлення сітуацыі і спадзяецца на магчымасць найхутчэйшага вяртання на Радзіму.




# Епіскапат ЗША заклікае да малітвы за Касцёл у Беларусі

**Да малітвы за перамогу міру і справядлівасці ў Беларусі ад імя епіскапату ЗША, вернікаў і ўсіх людзей добрай волі заклікаў старшыня Камісіі справядлівасці і міру ў свеце біскуп Дэвід Дж. Малой.**

Іерарх нагадаў, што пасля выбараў, якія прайшлі ў краіне 9 жніўня, вялікая колькасць мірных дэманстрантаў выйшла на вуліцы, ставячы пад сумнеў іх афіцыйныя вынікі. З боку ўладаў адбываліся акты гвалту, масавыя арышты і запалохванне. Сітуацыя застаецца напружанай і пасля чатырох тыдняў пратэстаў. Мясцовы Касцёл асудзіў гвалт і неаднаразова заклікаў да малітвы, пакаяння і канструктыўнага дыялогу.

Старшыня Камісіі справядлівасці і міру працытаваў словы Святога Айца, які 16 жніўня заклікаў паважаць правы ўсіх грамадзян Беларусі, весці дыялог, адмовіцца ад гвалту і захаваць справядлівасць і мір.

"Малюся аб міры і справядлівасці для Беларусі. Заклікаю паважаць правы чалавека ўсіх грамадзян. (...) Запрашаю ўсіх католікаў і людзей добрай волі далучыцца да Папы ў яго малітвах аб міры і справядлівасці ў Беларусі", – напісаў прадстаўнік епіскапату Злучаных Штатаў.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*


Епіскапат ЗША падчас сустрэчы з Пантыфікам. Ілюстрацыйнае фота

# Святы Пасад займаецца справай арцыбіскупа Кандрусевіча

**Святы Пасад умяшаўся ў справу арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, якому беларускія ўлады не дазваляюць вярнуцца ў Беларусь і анулявалі пашпарт, – пацвердзіў 14 верасня кардынал Дзяржсакратар П'етра Паралін.**




Кіраўнік ватыканскай дыпламатыі дадаў, што гэтаму таксама спрыяў візіт у Мінск Сакратара па сувязях Святога Пасаду з дзяржавамі арцыбіскупа Пола Рычарда Галахера.

"У любым выпадку мы настойваем на тым, каб біскуп мог вярнуцца ў сваю дыяцэзію і працягваць кіраваць сваёй паствай", – адзначыў іерарх. У той жа час ён дадаў, што Касцёл заўсёды павінен быць "стымулам дыялогу, згоды і міру".

Падчас сустрэч з арцыбіскупам Галахерам прадстаўнікі ўладаў аднавілі запрашэнне Пантыфіку прыехаць у Беларусь. "Беларусь заўсёды праяўляла вялікую цікавасць да візіту Папы", – падкрэсліў кардынал Паралін. Аднак гэтыя планы не былі канкрэтызаваныя, а зараз пандэмія COVID-19 "заблакавала ўсё", невядома, як надоўга. "Думаю, што гэта адзін з візітаў, які Папа будзе разглядаць", – адзначыў Дзяржсакратар Яго Святасці.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

## *Біскуп Яшэўскі:*

# "Заклік Папы Францішка да ўладаў асабліва актуальны для Беларусі"

**13 верасня падчас традыцыйнай нядзельнай малітвы "Анёл Панскі" Папа Францішак звярнуў увагу на з'яву грамадскіх пратэстаў, што назіраецца ў многіх частках свету, і заклікаў дзяржаўныя ўлады забяспечыць поўную павагу да правоў чалавека і грамадзянскіх свабод.**

Як паведаміла беларуская рэдакцыя парталу Vatican News, Святы Айцец заўважыў, што "шматлікія народныя дэманстрацыі пратэсту адлюстроўваюць усё больш неспакой грамадзянскай супольнасці ва ўмовах асабліва крытычных палітычных і сацыяльных сітуацый".

Пастыр паўсюднага Касцёла заклікаў дэманстрантаў "мірна выказвацца пра свае праблемы, не паддаючыся спакусе агрэсіі і гвалту", а дзяржаўныя ўлады – "прыслухацца да голасу сваіх суграмадзянаў і пайсці насустрач іх законным імкненням, забяспечваючы поўную павагу да правоў чалавека і грамадзянскіх свабод".

Пантыфік запрасіў касцельную супольнасць краін, дзе адбываюцца пратэсты, пад кіраўніцтвам сваіх пастыраў заўсёды працаваць на карысць дыялогу, прымірэння і прабачэння.

"Менавіта такі падыход да вырашэння складанай грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі прапаноўваў Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, які з 31 жніўня не мае магчымасці вярнуцца на Радзіму", – зазначыў, каментуючы словы Пантыфіка, Біскупскі вікарый для горада Магілёва і Магілёўскай вобласці біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB. Іерарх дадаў, што хоць Папа Францішак не назваў канкрэтных краін, але сказанае ім можна ў поўнай меры аднесці да сённяшняй сітуацыі ў Беларусі, дзе ўжо больш за месяц не спыняюцца мірныя пратэсты, якія збіраюць сотні тысяч удзельнікаў па ўсёй краіне.

*catholic.by*

# Без удакладнення прычын беларускія ўлады забаранілі служыць ксяндзу Юрыю Вільку



**Ксёндз Юрый Вільк мае польскае грамадзянства і ўжо шмат гадоў служыць святаром у Віцебскай дыяцэзіі.**

4 верасня святар атрымаў ліст ад упаўнаважанага па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў Леаніда Гулякі, якім 3 верасня адмяняецца дазвол на святарскае служэнне ў Беларусі.

Апошнія гады кс. Юрый быў пробашчам парафіі ў Вапапаеве, што ў Пастаўскім раёне. Раней ён працаваў у іншых парафіях Беларусі.

Сам святар у інтэрв'ю "Белсату" патлумачыў, што загаду аб выездзе з краіны не было, бо яго віза ўсё яшчэ дзейнічае. Аднак ён не можа выконваць святарскае служэнне.

У Беларусі ўлады рэгулююць дзейнасць святароў. Без спецыяльнага дазволу замежныя святары не могуць цэлебраваць нават адну Імшу. Для пастаяннай працы неабходны дазвол, падпісаны Гулякам.

# Будаваць Валадарства справядлівасці кожны дзень

**За апошнія месяцы нам, беларускім католікам, давялося пачуць: "У храмы людзі павінны прыходзіць маліцца! Цэрквы, касцёлы не для палітыкі!" На розныя лады такое паўтаралася то тут, то там: маўчыце, маўчыце, маўчыце, вернікі, пра сітуацыю ў грамадстве, не вашага розуму гэтыя справы!**

■ Аляксандр Гелагаеў

**Але ці сапраўды католік, у тым ліку каталіцкі святар ці нават біскуп, мусіць маўчаць пра тое, што адбываецца ў ягонай краіне?**

Ну, па-першае, католік – гэта такі ж самы грамадзянін, як, напрыклад, і "праваслаўны атэіст". І мае такія ж правы на выказванне свайго меркавання па любых грамадскіх пытаннях. "Кожнаму гарантуецца свабода меркаванняў, перакананняў і іх вольнае выказванне", – кажа нам Канстытуцыя Беларусі.

Па-другое, беларускі католік з'яўляецца часткай беларускага народа, то бок, згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, з'яўляецца крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту Беларусі.

Ну, і самае галоўнае, Касцёл называе грамадскае жыццё натуральным і згодным з Божым планам для кожнага чалавека. "Разам з асабістым пакліканнем да шчасця чалавеку ўласцівае грамадскае вымярэнне, якое з'яўляецца істотным кампанентам яго натуры і яго паклікання", – кажа Кампендый сацыяльнага вучэння Касцёла.

Больш за тое, католік не толькі не мусіць хавацца ад палітыкі, але мае АБАВЯЗАК удзелу ў публічным жыцці, тым больш у перыяд нейкага крызісу.

"Асабліва там, дзе грэх псуе грамадскі клімат, НЕАБХОДНА заклікаць да навяртання сэрцаў і да ласкі Божай, каб дасягнуць грамадскіх зменаў, якія б сапраўды служылі кожнай асобе і яе інтэгральнасці", – гаворыцца ў дакуменце. "Грамадзяне, наколькі гэта магчыма, ПАВІННЫ прымаць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці", – падкрэсліваецца далей.

Што значыць "дасягнуць грамадскіх зменаў, якія б сапраўды служылі кожнай асобе і яе інтэгральнасці?" Інтэгральнасць у дадзеным выпадку – гэта еднасць з Богам, адпаведнасць хрысціянскаму ідэалу жыцця.

Гэта найперш значыць, што жыццё ў грамадстве мусіць стаць такім, каб чалавек мог свабодна жыць згодна з Евангеллем, каб законы і дзеянні ўладаў забяспечвалі агульнае дабро. Чалавеку ў справядлівым грамадстве не трэба каяцца за ўдзел у фальшаванні выбараў, не трэба хлусіць.

**Грамадства мусіць быць такім, каб чалавек жыў у Свабодзе.**

"Права на свабоду – асабістае права кожнага чалавека, паколькі яно неад'емнае ад яго чалавечай годнасці", – навучае Касцёл. Ці значыць гэта сваволю кожнага? Не. Сапраўдная свабода – гэта жыццё ў той чалавечай годнасці, якую прадбачыў для нас Бог.

Той жа самы крытэрый адпаведнасці Божаму плану дзейнічае і для ўлады: "Улада здзяйсняецца законна, калі дзейнічае дзеля агульнага дабра і выкарыстоўвае для яго дасягнення дапушчальныя з пункту гледжання маралі сродкі".

**А што, калі ўлада дзейнічае інакш?**

Адзін з яркіх прыкладаў адказу на гэтае пытанне – бласлаўлёны кардынал Клеменс фон Гален, палымяны патрыёт Нямеччыны, які разумеў, што любіць Радзіму можна толькі праз любоў да Хрыста, праз бескампрамісную любоў да праўды. У часы нацызму ён не стаў падпявалам фашысцкай уладзе, а ўступіў у адкрытую спрэчку з гітлераўцамі, стаў на абарону іхніх ахвяраў.

За мужнасць і шчырасць біскупа сталі называць "мюнстэрскім львом". Ягоныя гаміліі з выступамі супраць эўтаназіі (забойстваў хворых і інвалідаў), супраць тэрору спецслужбаў, прымусовай стэрылізацыі і канцэнтрацыйных лагераў сталі друкаваць і нелегальна распаўсюджваць тысячнымі накладамі.

Гітлер хацеў зняць непакорнага іерарха з пасады, аднак яго пераканалі, што гэта прывядзе да антынацысцкіх выступаў у Вестфаліі. З 1941 года і да канца вайны пастыр знаходзіўся фактычна пад хатнім арыштам. Аднак менавіта такія людзі, хрысціяне-патрыёты, як бласлаўлёны кардынал фон Гален, сталі апраўданнем і гонарам пасляваеннай Нямеччыны.

# The New York Times напісаў пра каталіцкую манахіню

**13 жніўня ў Нью-Ёрку ў кляштары Кангрэгацыі сясцёр св. Юзафа памерла законніца Ілэйн Рулет, якая зрабіла сапраўдную рэвалюцыю ў жаночых турмах. Ёй было 89 гадоў.**

Яна стварыла інавацыйную праграму дапамогі зняволеным і іх дзецям, што выкарыстоўваецца сёння ў шматлікіх амерыканскіх папраўчых установах. Вялікі артыкул пра сястру-юзафітку і яе дзейнасць выйшаў у New York Times.

На гэты артыкул у сваім спецыяльным лісце спасла́ўся біскуп дыяцэзіі Роквіль-Цэнтр (Нью-Ёрк) Джон О. Барэс. Ён назваў жыццё памерлай сястры "прыкладам прарочага паклікання, дзе глыбокая блізкасць з Езусам Хрыстом стварыла новую місію для Каталіцкага Касцёла ў Лонг-Айлендзе і штаце Нью-Ёрк".

Сястра Ілэйн кіравалася простым правілам: "Вязні, большасць з якіх – маці, павінны рэгулярна бачыцца з дзецьмі. Яны таксама павінны навучыцца "быць бацькамі", што, у сваю чаргу, можа прывесці да "вылячэння душы і не паўтарэння мінулых канфліктаў у наступных пакаленнях".

Законніца пачала са стварэння "Дзіцячага цэнтра" ў жаночай турме з самым высокім узроўнем бяспекі ў Бэдфард-Хілз. Маці-зняволеныя маглі бавіць час з дзецьмі, а не проста бачыць іх твары праз шкло.

Адразу пасля нараджэння мелі магчымасць жыць з імі 12-18 месяцаў. Пазней гэтую схему пачалі рэалізоўваць у турмах па ўсёй краіне.

Сястра Ілэйн Рулет была звязана з Нью-Ёркам усё сваё жыццё. Нарадзілася яна 5 кастрычніка 1930 г. у Маспет, каля Куінс. Жыццё было няпростым: бацька памёр, калі яна была яшчэ дзіцём, а маці давялося шмат працаваць на ваеннамарской верфі ў Брукліне.

Пасля прыходу ў жаночы манастыр і заканчэння педагагічнага Бэнк-Стрыт-Коледж на Манхэтэне яна паступова зацікавілася цяжкім становішчам жанчын, якія знаходзяцца ў зняволенні, пераканаўшыся, што "ў дзіцяці павінна быць магчымасць расці разам з маці, каторыя вучацца быць добрымі бацькамі".

У інтэрв'ю ў 1995 г. сястра Ілэйн выказала перакананне: "Смех – гэта, мабыць, найбольш пажаданы Богам гук на зямлі, і я перакананая, што пачуццё гумару можа прымусіць многія праблемы знікнуць". У канцы жыцця законніца пакутавала ад дэменцыі. Сваю хваробу яна, аднак, пераважвала з усмешкай і гумарам.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# В Австралии власти отменили тайну исповеди в отношении информации о насилии над детьми

**8 сентября в штате Квинсленд (Австралия) утвердили закон о тюремном заключении для священников, которые не сообщат властям о полученной во время таинства исповеди информации о возможном или реальном сексуальном насилии над детьми. Аналогичные положения уже приняли или готовятся принять в ряде других австралийских штатов, сообщает baznica.info со ссылкой на Catholic News Agency.**

Так, согласно принятому в Квинсленде закону, неисполнение этой обязанности духовенством будет наказываться лишением свободы сроком до трех лет.



По мнению архиепископа РКЦ Марка Колриджа, принятое положение никак "не повлияет на безопасность детей и молодежи", но свидетельствует, что законодатели "плохо представляют себе, как таинство осуществляется на практике". Он считает, что "закон сделает священников не столько слугами Бога, сколько государственными служащими, и вызывает серьезные вопросы о соблюдении религиозной свободы в стране".

Неделей ранее католические епископы Австралии ознакомили федеральное правительство с позицией Ватикана по 12 пунктам доклада 2017 года о сексуальном насилии над детьми в общественных учреждениях, которая настаивает на нерушимости тайны исповеди и распространении печати тайны на все грехи, в которых прямо признается кающийся, а также на грехи других лиц, о которых становится косвенно известно из исповеди.

В свою очередь министр внутренних дел штата Квинсленд Марк Райан заявил, что "долг и моральное обязательство каждого гражданина в нашем обществе состоит в том, чтобы сообщать о преступлениях против детей", и "принадлежность к какой-то особой группе или роду занятий не может освобождать гражданина от этого долга и моральной обязанности".

**"В Католической церкви тайна исповеди нерушима. Поэтому исповеднику строжайшим образом запрещается выдавать кающегося словами или каким-либо иным способом и по какой бы то ни было причине."**

Хранить тайну обязан также и переводчик, если таковой присутствовал, и все прочие лица, тем или иным образом узнавшие о грехах из исповеди.

В Катехизисе Католической Церкви говорится: "Принимая во внимание сложность, тонкость и величие этого служения, а также долг уважения к людям, Церковь заявляет, что любой священник, принимающий исповедь, обязан под страхом строгого наказания хранить абсолютную тайну в отношении грехов, в которых признался ему кающийся. Он также не может использовать сведения о жизни кающихся, полученные на исповеди. Тайна эта, не допускающая исключений, называется "печатью таинства", ибо то, что кающийся доверил священнику, остается "запечатленным" таинством".

# Формы і метады абмежавання дзейнасці рыма-каталіцкага духавенства ў 1944-1970-я гг.

**У Савецкім Саюзе ў адпаведнасці з заканадаўтвам аб культах розныя канфесіі маглі функцыянаваць у вызначаным уладамі прававым полі. Нягледзячы на тое, што дзейнасць цэркваў і духавенства, хоць і з абмежаваннямі, але была дазволена, а свабода адпраўлення культу прызнавалася за грамадзянамі, рэалізацыя гэтых правоў і свабод на практыцы ішла ўразрэз з савецкім заканадаўствам.**

■ **Раіса Зянюк**, *кандыдат гістарычных навук, Мінск*



Можна казаць, што розныя канфесіі ў розных рэспубліках СССР мелі няроўны статус. Больш за тое, нават у межах адной краіны, якой была БССР, былі два выразныя рэгіёны, дзе існавалі дазволеныя для дзейнасці канфесіі і забароненыя. Гэта было абумоўлена геапалітычным становішчам у міжваенны перыяд і знаходжаннем тэрыторыі Беларусі ў складзе дзвюх розных дзяржаў: БССР і Польшчы. Пасля ўключэння тэрыторыі Заходняй Беларусі менавіта на ёй дазвалялася дзейнасць рымска-каталіцкага касцёла. На тэрыторыі Усходняй Беларусі дзейнасць касцёла дэ-факта была забаронена, хаця дэ-юрэ была магчымай. Аніводная заява аб рэгістрацыі рэлігійнага аб'яднання (а яны былі масавымі – у Мінску, Слуцку, Бабруйску, Магілёве, Барысаве і іншых мясцовасцях) і святара для яго не была задаволена. Для гэтага абіраліся альбо фармальныя падставы, альбо наўпрост выкарыстоўвалася ігнараванне заяў грамадзян.

Іншая сітуацыя была на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Тут рэлігійныя аб'яднанні рэгістраваліся, касцёлы дзейнічалі, а вернікі (вызначанага ўзросту) маглі збірацца на набажэнствы. Разам з гэтым задачай уладаў была шырокая атэістычная прапаганда і паступовая ліквідацыя ўсіх формаў і праяў рэлігійнага жыцця. Адным з накірункаў гэтага стала абмежаванне дзейнасці каталіцкага духавенства. Яно рэалізавалася праз выкарыстанне разнастайных метадаў. Аднак усе яны скіроўваліся на тое, каб духавенства як сацыяльная група ў БССР увогуле перастала існаваць. Найлепш з гэтай задачай спраўляліся першачарговыя мерапрыемствы, разгорнутыя пасля вайны: рэпатрыяцыя і рэпрэсіі.



Касцёл св. Антонія ў Віцебску. *Узарваны ў 1961г. савецкімі ўладамі.*

Рэпатрыяцыя – арганізаваны ўладамі масавы выезд у Польшчу тых грамадзян, якія дэкларавалі сябе палякамі і мелі раней польскае грамадзянства. У 1947 г. упаўнаважаны адзначаў: "Всего в Белоруссии имеется 166 ксендзов, раньше их было значительно больше. За этот год, с последним переселением в Польшу, мы постарались как можно больше отправить ксендзов в Польшу. У нас на выезд записалось 15 ксендзов. Списки эти были утверждены Министерством Иностранных дел. Но когда встал вопрос в августе месяце о их переселении, то 3 человека отказались выезжать". Адмову ў выездзе ўлады звязвалі з "распрадджэннем з Ватыкану".


Касцёл св. Стэфана ў Полацку. *Разбураны савецкімі ўладамі ў 1964г.*

Рэпрэсіі адносна каталіцкага духавенства ў пасляваеннай БССР таксама былі дастаткова масавымі і таксама змяншалі колькасць святароў. Ёсць звесткі пра 95 асуджаных святароў, што складала 42% ад агульнай колькасці духавенства ў той перыяд. Большасць з іх асудзілі па артыкуле 72 Крымінальнага кодэкса БССР, які агулам гучаў як "антысавецкая прапаганда". Сам артыкул прадугледжваў наступнае: "а) Пропаганда или агитация, содержащие призыв к свержению, подрыву или ослаблению советской власти, или к совершению отдельных, контрреволюционных преступлений (ст.ст. 64–71), а равно распространение, или изготовление, или хранение литературы того же содержания влекут лишение свободы на срок не ниже шести месяцев. б) те же действия при массовых волнениях или с использованием религиозных или национальных предрассудков масс, или в военной обстановке, или в местностях, объявленных на военном положении, влекут меры социальной защиты, указанные в ст. 64 настоящего кодекса".

Арышты святароў у справаздачах адзначаюцца як "ізаляцыя". Так, у кастрычніку 1947 г. упаўнаважаны адзначаў: "В этом году положение после изоляции некоторых ксендзов улучшилось. Например, ксендз Малынич, который был уполномочен проводить работу по восточным районам, изолирован. За последние 6 месяцев у нас было арестовано 9 ксендзов, главным образом за то, что некоторые помогали немцам во время оккупации или поддерживали и поддерживают связь с польским бандитским подпольем. Часть из них уже осуждена. Таким образом, у нас осталось 166 ксендзов, это все же довольно значительная армия отъявленных реакционеров. Большинство их враждебно настроено против Советской власти, против наших мероприятий." Асноўная хваля арыштаў прыйшлася на 1947–1950 гг. Напрыклад, толькі за першы квартал 1948 г. у Гродзенскай вобласці былі арыштаваныя тры святары: ксёндз касцёла ў Бердаўцы А. Чыжэўскі, ксёндз касцёла ў Галынцы А. Красоўскі, і ксёндз касцёла ў Падароску С. Шымковіч.

Некаторыя святары пасля вызвалення з лагераў у сярэдзіне 50-х гг. не змаглі атрымаць рэгістрацыі і вымушаныя былі выехаць у Польшчу. Так адбылося, напрыклад, з будслаўскім ксяндзом Браніславам Сладзінскім (выехаў у 1953 г.), ксяндзом з Крывічоў Валяр'янам Халкоўскім (выехаў у 1953 г.), ксяндзом з Радашковічаў Стэфанам Шыманскім (выехаў у 1958 г.).

У выпадку патрэбы практыкавалася закрыццё зарэгістраваных і дзейных касцёлаў, зняцце з пасады святароў і перавод іх на іншае месца. Так адбылося, напрыклад, у Шчучыне ў жніўні 1962 г. Упаўнаважаны Савета па справах рэлігійных культаў Лаўнікевіч пазбавіў рэгістрацыі шчучынскага пробашча кс. Петраша. Касцёл быў закрыты. Прычыну вернікам не аб'явілі. Аднак архіўныя дакументы сведчаць, што гэта было зроблена па просьбе камандавання 95 знішчальна-авіяцыйнай дывізіі, якую яны скіравалі на імя Старшыні Савета Міністраў БССР Ц.Я. Кісялёва. Сваю просьбу аргументавалі тым, што "штаб воинского соединения расположен в бывшем монастыре, который находится под одной крышей с костелом, что такое "сосед-

ство" крайне нежелательно". Ксёндз Петраш быў пераведзены ў Каменскі касцёл Шчучынскага раёна.

У якасці мераў уздзеяння на святароў практыкавалася часовае зняцце іх з рэгістрацыі (забарона адпраўляць набажэнствы ў той парафіі, дзе святар быў зарэгістраваны). Напрыклад, на доўгі час з 1961 г. быў зняты з рэгістрацыі пробашч касцёла ў Кабыльніку (Нарачы) Пётр Васюцёнак. Не маючы магчымасці ізноў атрымаць рэгістрацыю як служыцель культу, ён быў вымушаны выехаць у Польшчу (у 1962 г.).

Адмова ў рэгістрацыі часта засноўвалася на адсутнасці прапіскі святара ў той мясцовасці, куды яго запрашалі на працу вернікі. Напрыклад, парафія ў Старых Васілішках, якая налічвала каля 5 тысяч чалавек, хадайнічала аб рэгістрацыі ў іх ксяндза Вікенція Варша, які жыў там два гады і ўвесь гэты час не мог атрымаць рэгістрацыі з-за адсутнасці прапіскі. Вернікі адзначалі ў скарзе (1959 г.): "Василишковская районная милиция, а также Уполномоченный областного комитета не прописывают священника Варша В.И. по его месту жительства и не разрешают служить в костеле".

Непакой заўсёды выклікалі і выезды святароў за межы Савецкага Саюза. У асноўным гэта была Польшча, дзе ў многіх прадстаўнікоў духавенства жылі родныя і сваякі. Аднак улады заўсёды расцэньвалі такія выезды як непажаданыя. "Характеризуя деятельность католического духовенства, нельзя не сказать, что на него большое влияние оказывает епископат ПНР. Все ксендзы области имеют родственников в Польше, к которым периодически выезжают по частным визам. Там они встречаются с местными ксендзами, епископами, а отдельные посещали даже кардинала Вышинского, получали разного рода разъяснения и рекомендации о своём поведении в СССР. (...) Имеются данные, что ксендз несвижского костела Колосовский Григорий Викентьевич, будучи в Польше в 1966 году, встречался с кардиналом Вышинским. Он поинформировал Вышинского о положении католической церкви в БССР и получил соотвествующие указания по активизации религиозной деятельности в Белоруссии, а также разъяснения по решениям 2-го Ватиканского собора". У сувязі з гэтым узнікалі прапановы падобныя выезды забараніць, аднак рэалізаваныя яны не былі.


Касцёл Святой Тройцы ў Сянно. *Разбураны ўладамі ў 1950-я гады.*

Сярод асобнага накірунку абмежавальных мерапрыемстваў можна выдзеліць і падаткаабкладанне, якое не заўсёды адпавядала ўзроўню даходаў святароў (значна перавышаючы яго). Напрыклад, ксёндз Люцыян Паўлік з друйскага кляштара марыянаў, які некаторы час пасля вайны яшчэ дзейнічаў, адзначаў, што даходы манастыра былі наступныя: "от собственного хозяйства: 100 пудов хлеба, 115 пудов картофеля, 55 пудов огороднены, 3,740 руб. дохода от исполнения религиозных обязанностей". У сваю чаргу, за гэты ж перыяд падаткаў было выплачана: "б) Размеры натурального и денежного налога с земельного участка, причитающегося в 1946 году:

-зерна – 700 кг налог, вольный закуп – 60 пудов, гос. закуп. – 180, всего дал – 883 кг збожа;

-картофеля – 700 кг налог, гос. закуп. – 1000 кг, всего дал – 1583 кг.;

-доходный налог с населения – 1797 руб.;

-страховка животных – 123,30 руб.

– сдал: сена – 300 кг.; мяса – 80 кг; молока – 360 литр.;

в) Налог со строений – 150 руб. и земельная рента – 80 руб., страховка от строений – 675,15 руб – все здал;

г) прочие обложения – 300 руб – здал".

Адпраўленне набажэнстваў для святароў павінна было абмяжоўвацца толькі касцёлам. Былі забароненыя традыцыйныя формы набажэнстваў і душпастырскіх практык. Да гэтага можна залічыць забарону калядных наведванняў вернікаў. Упаўнаважаны адзначалі: "с наступлением религиозных праздников /рождество/ ряд представителей духовенства, особенно деканы /Гродненский – Курилович А.М., Лидский – Баневич К.М. и др/ обратились ко мне за разрешением проводить ксендзам данных деканатов календу, т.е. разрешить ксендзам разъезжать по деревням приходов, посещать квартиры верующих и собирать от них дань. Учитывая крайнюю нежелательность этого – календы, – особенно с приближением выборов в местные Советы депутатов трудящихся, я не дал согласия представителям духовенства проводить ее и рекомендовал деканам дать указание ксендзам подчиненных им деканатов воздержаться от коленды в 1947-1948 гг.". Афіцыйна святарам было забаронена і правядзенне маёвых набажэнстваў у выпадку, калі яны адбываліся па-за межамі касцёлаў.


Касцёл Святой Тройцы ў Чачэрску. *Разбураны савецкімі ўладамі ў 1950-я гады.*

Адным з найбольш суровых абмежаванняў, выкананне якога рэгулярна правяралася і ў выпадку невыканання каралася, была забарона катэхізацыі. Гэта абгрунтоўвалася наяўнасцю дэкрэта аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы. На яго аснове ў БССР забаранілі праводзіць вывучэнне катэхізіса з дзецьмі. Рэакцыя духавенства занатавана ўпаўнаважаным: "Абсолютное большинство ксендзов, считая запрет не основательным, это мероприятие встретили враждебно. Так, декан Гродненского деканата Курилович повторил свое прошлогоднее заявление, а декан Лидского деканата Баневич своими взглядами и высказываниями продублировал его, что "без катехизиса нет свободы религии в СССР". Выяўленне фактаў катэхізацыі дзяцей у касцёле каралася арыштамі святароў (ксёндз Пётр Пупін, Хожава), зняццем іх з рэгістрацыі на вызначаны тэрмін (у 1967 г. па гэтай прычыне на некалькі месяцаў быў зняты з рэгістрацыі ксёндз Юзаф Марсангер з касцёла ў Красным). Акрамя святароў сур'ёзны ціск аказваўся на саміх дзяцей і на бацькоў.

Спробы святароў аргументаваць свае дзеянні неабходнасцю выканання нормаў кананічнага права і дакументамі Апостальскай Сталіцы выніку не мелі. На размовах са святарамі ім спрабавалі давесці, што "католическая церковь в Советском Союзе Ватикану не подчинена, поэтому его решения нас не касаются".

Падсумоўваючы, можна адзначыць, што асноўнымі формамі абмежавання дзейнасці рымакаталіцкага духавенства ў пасляваеннай БССР былі рэпрэсіі (1945–1951 гг.), фінансавыя спагнанні, зняцце з рэгістрацыі, пераводы на іншае месца працы (1950-я–1970-я гг.).

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета
"Каталіцкі Веснік"
вул. Савецкая, 1
211793
г. Глыбокае
Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч
Віктар Мар'янавіч
вул. Савецкая, 1
211793
г. Глыбокае
Віцебскай вобл.*

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя
"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# "Хвала Богу за ўсё!"

## Некалькі слоў пра святога Яна Хрызастома



**13 верасня ў літургічным календары – дзень успаміну вялікага настаўніка і айца Касцёла святога Яна Хрызастома. Ягоны талент – непаўторны Божы дар, ягоныя творы – пярліны хрысціянскай думкі, ягонае жыццё – захапляльная гісторыя, вартая быць асновай кінасцэнарыяў. Аскет, прапаведнік, біскуп, рэфарматар, выгнаннік – гэта ўсё пра яго. Прапаную вашай увазе цікавыя факты з жыцця і дзейнасці славутага патрыярха.**

**с. Дар'я Галубкова OV,** доктар тэалогіі

1 Будучы святы нарадзіўся ў Сірыйскай Антыёхіі каля 347 года. Малады чалавек рыхтаваўся да свецкай кар'еры, беручы ўрокі рыторыкі і філасофіі ў найлепшых настаўнікаў. Яшчэ ён належаў да згуртавання аскетаў, вывучаў Святое Пісанне (і вучыў на памяць!), а ў выніку прыняў хрост і стаў манахам.

2 Праз некаторы час праблемы са здароўем змусілі Яна адмовіцца ад аскетычнага жыцця і вярнуцца ў Антыёхію, дзе неўзабаве ён стаў дыяканам, а праз сем гадоў – святаром. Менавіта ў гэты перыяд жыцця Ян атрымаў мянушку "Хрызостомас", гэта значыць, Златавусны, за свае палкія і павучальныя казанні. У старажытным свеце, дзе прыгажосць слова грала вялікую ролю, а сярод хрысціян існаваў комплекс непаўнавартасці ў адносінах да велічы культуры язычніцкага свету, Ян Хрызастом стаў першым сапраўды вялікім хрысціянскім рытарам. Бог надзяліў яго красамоўствам, каб ён стаў слугою Слова.

3 Пасля смерці патрыярха Нектарыя Ян атрымаў нечаканую прапанову ад імператара Аркадзія: узначаліць Канстанцінопальскі Касцёл. Святы, вядома, адмовіўся, бо лічыў біскупскі сан вялікай адказнасцю за чалавечыя душы. Імператару давялося выкрасці яго з роднага горада і даставіць у Канстанцінопаль, дзе ў 397 годзе Ян усё ж такі стаў біскупам.

4 Новы біскуп не сядзеў на месцы і распачаў рэформу Канстанцінопальскага Касцёла, які знаходзіўся ў глыбокім адміністратыўным і духоўным крызісе. Ён асуджаў развязнасць звычаяў і празмерныя багацці духавенства і вяльможаў імператарскага двара, заклікаў да навяртання і аднаўлення рэлігійнага жыцця сталіцы.

5 Ян Хрызастом надаваў вялікае значэнне дабрачыннай дзейнасці як часткі святарскай паслугі. Часта паўтараў, што бедныя належаць Богу, і не важна, хрысціяне яны ці не. Заклікаў заможных людзей да дапамогі хворым і ўбогім. Біскуп зрабіў фінансавую рэформу ўласнага палацу і сэканомленыя сродкі аддаў на стварэнне прытулкаў і шпіталяў.

6 Моцны ўплыў патрыярха на рэлігійнае і грамадска-палітычнае жыццё, яго прынцыповая пазіцыя, вернасць праўдзе і справядлівасці, безумоўна, паспрыялі з'яўленню ў яго ворагаў на чале з Александрыйскім біскупам Тэафілам і жонкай імператара Эўдоксіяй. Тэафіл склікаў сінод біскупаў, на якім Ян быў пазбаўлены пасады і асуджаны на смерць. Імператар, аднак, змяніў смяротны прысуд на выгнанне.

7 У ноч пасля выгнання Яна Хрызастома ў Канстанцінопалі адбыўся землятрус, а імператрыца Эўдоксія страціла дзіця. Яна палічыла гэта знакам Божага гневу і ўпрошвала біскупа вярнуцца.

8 Ужо праз пару месяцаў, аднак, стасункі Яна Хрызастома з імператарскім дваром і александрыйскім патрыярхатам зноў пагоршыліся. У 404 годзе быў падпісаны дэкрэт аб ягоным выгнанні ў Кукус (цяпер у Турцыі). Адтуль Ян вёў жывую перапіску з сябрамі, духоўна іх падтрымліваў, да таго ж пісаў новыя тэалагічныя творы.

9 Актыўнасць Яна на выгнанні не падабалася яго ворагам, таму новым загадам ён быў адпраўлены ў Піфіунт – цяпер гэта Піцунда, што на тэрыторыі Абхазіі. Пасля трох масяцаў цяжкай вандроўкі, хворы і змучаны катамі, Ян Хрызастом памёр у мясцовасці Каман, так і не дасягнуўшы наступнага месца выгнання.

10 Уначы Яну Хрызастому з'явіўся мясцовы мучанік Базіліск і сказаў: "Будзь мужным, Яне, заўтра мы будзем разам!" На наступны дзень, 14 верасня 407 года, пасля прыняцця Святой Камуніі, Ян адышоў да Пана. Апошнія яго словы былі: "Хвала Богу за ўсё!"

11 Толькі пасля смерці ворагаў, у 438 годзе, цела Яна было перанесенае ў Канстанцінопаль. Сам Феадосій II, сын Аркадзія і Эўдоксіі, перад труной Святога прасіў аб прабачэнні для сваіх бацькоў. У 1204 г. рэліквіі Хрызастома былі перавезеныя ў Рым, дзе спачывалі аж да 27 лістапада 2004 года, калі Папа Ян Павел II перадаў большую частку з іх патрыярху Канстанцінопаля Барталамею I.

12 Ян Хрызастом з'яўляецца найбольш пладавітым з грэцкіх Айцоў Касцёла. Ён пакінуў багатую літаратурную спадчыну: казанні, прамовы, трактаты, каментары, лісты. Яго маральнае павучэнне перадусім абапіраецца на Святым Пісанні і датычыць самай рознай тэматыкі, у тым ліку міласэрнасці да бліжняга, хрысціянскай сям'і, жыцця, прысвечанага Богу.

13 Асаблівае месца ў навучанні Яна належыць святарскай паслузе. Гэта ён напісаў гімн велічы хрысціянскага святарства – "Дыялог аб святарстве".

14 Ян Хрызастом таксама прычыніўся да складання найчасцей ужыванага рыту візантыйскай літургіі, якая носіць яго імя. Святога асабліва чынам ушаноўваюць ва ўсходнім Касцёле.

15 У сваіх выказваннях Ян даволі сурова ставіўся да жанчын. У той жа час да кола яго найбліжэйшых сяброў належалі ажно тры кабеты. Найбольш вядомая з іх – удава і дыяканіса Алімпія – падтрымлівала Хрызастома духоўна і матэрыяльна да канца яго жыцця. Да нас дайшло сямнаццаць лістоў, якія Ян адрасаваў ёй з выгнання.

Ян Хрызастом пакінуў настаўленні нашчадкам не толькі ў сваіх творах. Яго гісторыя жыцця, яго адданасць Богу і Божай аўчарні, мужнасць у выпрабаваннях і цяпер служаць прыкладам для біскупаў, святароў і ўсіх вернікаў.

Спадзяюся, што гэты невялікі аповед заахвоціць вас, дарагія чытачы, да паглыблення ведаў пра вялікага Святога і да знаёмства з яго навучаннем.

# Чашу, расстрелянную боевиками ИГИЛ, выставили в испанских католических церквях

**В рамках молитв о гонимых христианах несколько католических приходов епархии Малаги (Испания) совместно организовали демонстрацию в качестве символа и свидетельства перед верующим Евхаристической Чаши из сирийского храма, которую джихадисты использовали как мишень для стрельбы.**

Чаша была обнаружена и извлечена из-под развалин сирийской католической церкви в городе Каракош в долине Ниневии в Ираке. Как святыня она был доставлена в епархию Малаги волонтёрами Папского благотворительного Фонда «Kirche in Not» («Помощь Церкви в нужде») для публичного выставления во время св. Месс, на которых возносят молитвы о преследуемых христианах.

«Эта Евхаристическая Чаша использовалась джихадистами для учебной стрельбы по мишеням», — пояснила Ана Мария Альдеа, сотрудница «Kirche in Not» в Малаге. «Чего они не могли себе никак представить, так это то, что данный священный сосуд будет повторно освящен и отправится в путешествие по многим странам и уголкам мира, чтобы участвовать в богослужениях в качестве величайшей святыни. Тем самым мы хотим сделать более близкой реальность, которую мы иногда видим по телевизору, но на самом деле часто не вполне осознаем, что видим. Когда вы видите Евхаристическую Чашу со следами пулевых отверстий, тогда вы начинаете по-другому осознавать гонения, которым подвергаются христиане в этих местах».

По словам Альдеа, цель демонстрации чаши во время богослужений — «показать людям факт преследований, от которых сегодня страдают многие христиане и которые в наши дни такие же жестокие, как и с первых дней существования Церкви».

*sib-catholic.ru
со ссылкой на CNA*



# Сярэбраны юбілей манаскага жыцця

**13 верасня ў парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім 25-годдзе манаскага жыцця адзначыла сястра Людміла Рубнікович з Кангрэгацыі сясцёр-францішканак Сям'і Марыі.**

**Марына Сінкевіч**

Сястра Людміла нарадзілася ў Глыбокім, вучылася, тут адказала Пану Богу "так" на Яго заклік. І дала пачатак глыбоцкім пакліканням да францішканак Сям'і Марыі. Пазней яе шлях фармацыі трываў у Польшчы. Пасля першых шлюбаў на некаторы час вярнулася ў Беларусь, затым была вучоба ў Польшчы, служэнне ў Пскове і Санкт-Пецярбургу. А цяпер, амаль праз дваццаць гадоў, Божая воля праз Маці Генеральную скіравала манахіню на сваю радзіму, дзе яна працягвае служыць Богу і людзям у закрыстыі і на занятках катэхезы.

Вялікай Божай ласкай і падарункам для с. Людмілы стала тое, што за юбіляра малілася не толькі родная парафія, але і ўся Беларусь дзякуючы трансляцыі святой Імшы на "Радыё Марыя", каманда якой завітала ў Глыбокае.

Літургія распачалася працэсіяй, якая прывяла законніцу ў прыгожым вяночку і з запаленым светачам у руках да алтара. Урачыстую Эўхарыстыю цэлебраваў пробашч кс. Мікалай Ціхановіч. "Сёння с. Людміла дзякуе Пану Богу за ласку сярэбранага юбілею манаскага жыцця. Просім для яе аб ласцы вытрымкі Богу і Святому Касцёлу да канца свайго жыцця і каб была святлом для свету і вялікай Божай любоўю праз сваё манаскае служэнне", – так заклікаў святар прысутных вернікаў і радыёслухачоў маліцца ў гэтай інтэнцыі.

На заканчэнне словы віншаванняў сказалі дзеці, моладзь і прадстаўнікі парафіі. "Старэйшыя памятаюць мяне яшчэ маленькай. У тыя часы, калі нельга было хадзіць адкрыта, вы былі тут. Я, малая дзяўчынка, гэта бачыла. Гэта было прыгожае сведчанне. І сёння я дзякую за вашу веру, вашу малітву. Плёнамі гэтай малітвы з'яўляемся мы – сёстры, якія тут жывём і працуем", – падзякавала сястра Людміла сваім парафіянам – старэйшым і малодшым, бо менавіта цяпер яны яе сям'я.



# Рыцары Хрыста ў Верхнядзвінску

**У школах і іншых навучальных установах навучальны год распачынаецца 1 верасня, а ў школе міністрантаў парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Верхнядзвінску заняткі ідуць ужо ад 27 жніўня.**

**Кс. Аляксандр Грыцкевіч**

Традыцыйна верхнядзвінскія міністранты збіраюцца на курсы падвышэння сваёй службовай кваліфікацыі на пачатку летніх канікулаў, але праз напружаную эпідэміялагічную сітуацыю сустрэчы былі перанесеныя на канец жніўня.

У гэтым годзе да старэйшых хлопцаў далучыліся і два кандыдаты пяці і дзевяці гадоў. Нягледзячы на такі маленькі ўзрост, яны добра адаптаваліся ў супольнасці і адчуваюць сябе часткай міністранцкага братэрства.

Тэма сёлетняй школы міністрантаў – "Быць рыцарам Хрыста", а дэвізам абраныя словы з Паслання апостала Паўла да Эфесцаў (6.10,16-17): "Нарэшце, браты, мацуйцеся ў Пану магутнасцю сілы Ягонай. Вазьміце шчыт веры, якім зможаце патушыць усе распаленыя стрэлы злога. І шлем збаўлення вазьміце, і меч духоўны, якім ёсць слова Божае."



Праграма, як заўсёды, насычаная і арыгінальная. Акрамя традыцыйнай тэарэтычнай і практычнай навукі міністранта і біблійных разважанняў, сёлета дзеці пазнаёміліся з гісторыяй манаскіх рыцарскіх ордэнаў. Дапаўненнем да ведаў па рыцарскай тэматыцы сталі настольная гульня «Каркасон» і футбольныя спаборніцтвы за рыцарскі ордэн пурпуровага сэрца. Вялікую цікавасць выклікаў курс цесляра, дзе кожны мог папрацаваць электрычным лобзікам і выразаць сабе драўлянага рыцара.

Шмат уражанняў выклікала падарожжа на славуты вадаспад на рацэ Вята, што ў Мёрскім раёне. Вяртаючыся з адпачынку на прыродзе, нам пашчасціла наведаць касцёл Маці Божай Шкаплернай у Ідолце і папрасіць пра апеку Маці Божай для Беларусі.

На нядзельнай святой Імшы міністранты разам з дзецьмі нашай парафіі памаліліся аб паспяховым навучальным годзе і падзякавалі за час летняга адпачынку, просячы міласэрнага Бога аб дарах Духа святога для вучняў і настаўнікаў, катэхетаў і святароў.

# Фрэска св. Яна Паўла II ў Віцебскай катэдры

**6 верасня ў катэдральным касцёле Езуса Міласэрнага ў Віцебску была асвечана новая фрэска з выявай святога Яна Паўла II, паведамляе vitkatedra.by.**

**Анатоль Бандарчук-Вошлаў,** *фота*

Яна паўстала як знак удзячнасці Пану Богу з нагоды стагоддзя з дня нараджэння вялікага Папы.

Яго асоба шырока вядомая і моцна паўплывала на свет у часе палітычных і грамадскіх пераменаў. Але перадусім Ян Павел II згадваецца як чалавек малітвы. Менавіта яго словамі "Малітвы за Айчыну" сёння ва ўсіх касцёлах нашай краіны моляцца людзі добрай волі.

Парафіяльная супольнасць дзякуе найперш Богу, а таксама святарам-ахвярадаўцам за такую цудоўную выяву св. Яна Паўла II, якая нагадвае вернікам пра сыноўні давер да Багародзіцы. Зараз, асабліва ў гэты вельмі неспрыяльны час, вельмі важна ўсім нам абвяшчаць справядлівасць, а зло заўсёды




дабром перамагаць.

Асвяціў фрэску ксёндз-канонік Андрэй Аніскевіч, дырэктар Caritas Віцебскай дыяцэзіі.



Каталіцкі ВЕСНІК

№9 (114)
верасень 2020 г.

## Біскуп Юрый Касабуцкі:

# "Факты гавораць, што адбываецца пераслед Касцёла"

**1 верасня Генеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Юрый Касабуцкі даў спецыяльнае інтэрв'ю Catholic.by, у якім выказаў меркаванне адносна сённяшняй няпростай сітуацыі Касцёла ў Беларусі.**



**— Ваша Эксцэленцыя, праз вымушаную адсутнасць арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча цяпер Вы як Генеральны вікарый ажыццяўляеце пастырскае кіраванне Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіяй. Што здарылася?**

— Сітуацыя складаная і незразумелая. На гэты момант па-ранейшаму няма ніякіх афіцыйных тлумачэнняў ад прадстаўнікоў улады. Арцыбіскуп звярнуўся непасрэдна да старшыні Дзяржаўнага пагранічнага камітэта Анатоля Лапо, але адказу на пытанне, чаму памежнікі не дазволілі яму вярнуцца на Радзіму, ад яго не атрымаў.

З Беластока, дзе арцыпастыр цяпер вымушана знаходзіцца, ён скіраваў да паствы нашага Касцёла зварот, у якім заклікае нас маліцца аб вырашэнні гэтай прыкрай сітуацыі і ўсяго грамадска-палітычнага крызісу ў нашай краіне. Наш Мітрапаліт не хоча, каб тое, што яму не дазволілі вярнуцца на радзіму, яшчэ больш пагоршыла і без таго няпростую сітуацыю ў грамадстве.

Але пакуль арцыбіскуп не можа вярнуцца, наша архідыяцэзія застаецца без пастыра, а каталіцкі епіскапат Беларусі – без свайго кіраўніка.

Таму нам трэба быць асабліва салідарнымі і аб'яднанымі ў гэты няпросты час, а Бог нас не пакіне.

**— Аляксандр Лукашэнка сёння заявіў у Баранавічах, што арцыбіскуп Кандрусевіч нібыта "ўлез у палітыку", выязджаў у Варшаву для нейкіх "кансультацый" і атрымаў там "пэўныя задачы", а таксама, што правяраецца наяўнасць у яго не аднаго грамадзянства? Як Вы можаце гэта пракаментаваць?**

— Усе заявы арцыбіскупа Кандрусевіча знаходзяцца ў адкрытым доступе, кожны іх можа прачытаць і рабіць высновы самастойна. Прадстаўнікі Касцёла, перадусім біскупы, маюць права і абавязак не быць абыякавымі да таго, што адбываецца ў грамадстве, асабліва ў такой сітуацыі, якая сёння склалася ў нашай краіне. Гэта ўжо не палітыка, гэта – сапраўдны гуманітарны крызіс, які пагражае стаць катастрофай, калі нічога не рабіць.

Пра якую палітыку гаворка? Наш Мітрапаліт не падтрымліваў нікога з кандыдатаў да выбараў і пасля іх, не рабіў ніякіх палітычных заяў, а толькі заклікаў да сумленнасці, адказнага падыходу, да дыялогу і да спынення гвалту.

Усе яго дзеянні і выказванні знаходзяцца ў межах сацыяльнага вучэння Каталіцкага Касцёла і дзеючага заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Гэта перадусім маральныя аспекты грамадскага жыцця, хрысціянскія і агульначалавечыя каштоўнасці, адыход ад якіх становіцца прычынай крызісаў у грамадстве.

Мне здаецца, Аляксандра Лукашэнку недастаткова добра інфармавалі. Зрэшты, ён і сам прызнаў, што не мае поўнай інфармацыі. Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч можа выязджаць для кансультацый у Ватыкан і атрымліваць задачы ад Папы Францішка, але не ад кагосьці іншага, напрыклад, у Варшаве, у Маскве ці дзесьці яшчэ.

Яго паездка ў Польшчу была звязана найперш з тым, што арцыбіскупа запрасілі ўзяць там удзел у шэрагу ўрачыстых набажэнстваў. Гэта звычайная ў Касцёле практыка. Да таго ў жніўні наш Мітрапаліт узначальваў урачыстыя набажэнствы ў Валкалаце (Віцебская вобласць), у Мінску, у Браславе (Віцебская вобласць), у Гродне, адкуль выехаў у Польшчу. У найбліжэйшую нядзелю ён планаваў маліцца разам з вернікамі ў Заслаўі, якія ўрачыста адзначаюць 600-годдзе існавання сваёй парафіі. І мы спадзяёмся, што да гэтага часу ён вернецца на радзіму, каб быць разам з намі і маліцца пра мір і згоду ў Беларусі.

Ніякіх перашкодаў для гэтага быць не павінна.

У арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча толькі адно грамадзянства – беларускае, і згодна з законам яго права на ўезд не можа быць ніякім чынам абмежаванае.

Беларускія грамадзяне паводле закону не могуць трапіць у "спіс неўязных", таму тут яўнае непаразуменне.

**— Ці можна меркаваць, з-за чаго склалася такая ненармальная сітуацыя з Касцёлам у Беларусі?**

— Сітуацыя сапраўды ненармальная. Відавочна, што на Касцёл спрабуюць аказваць ціск, а значыць, адбываецца пераслед Касцёла, хоць пра гэта ніхто адкрыта не кажа. Зрэшты, і ў савецкія часы змагання з верай і Касцёлам ніхто адкрыта не казаў пра пераслед, хоць ён быў вельмі жорсткім. Пра тое, што сітуацыя цяпер падобная, гавораць факты.

Па-першае, наш арцыбіскуп не можа ўехаць у краіну, хоць гэта незаконна і парушае яго правы як грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.

Па-другое, 31 жніўня ў Апараце ўпаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей Леаніда Гулякі адбылося пасяджэнне Кансультацыйнай міжканфесійнай рады, у склад якой уваходзяць кіраўнікі рэспубліканскіх рэлігійных аб'яднанняў праваслаўнай, рыма-каталіцкай, юдэйскай, мусульманскай, стараабрадскай і пратэстанцкай канфесій і рэлігійных кірункаў. Нягледзячы на тое, што Каталіцкі Касцёл у Беларусі з'яўляецца другой па колькасці вернікаў традыцыйнай канфесіяй, яго прадстаўнік не быў запрошаны на пасяджэнне кансультацыйнай рады, пра якое мы нават не ведалі.

Пасля пасяджэння з намі звязаліся прадстаўнікі іншых канфесій і падзяліліся, што на ім нас, беларускіх католікаў, літаральна "палівалі брудам".

Відаць, прадстаўніка Касцёла не запрасілі таму, што мы заўсёды маем што адказаць на неабгрунтаваныя прэтэнзіі.

Па-трэцяе, як спробы аказання ціску на нашу канфесію можна расцэньваць і незразумелыя дзеянні з боку розных дзяржаўных структур у адносінах да адной з самых вялікіх каталіцкіх парафій Мінска – касцёла святога Сымона і святой Алены, Чырвонага касцёла.

**— Як вы, Ваша Эксцэленцыя, расцэньваеце тое, што адбывалася і адбываецца ў Чырвоным касцёле?**

— Курыя Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі ўжо больш за месяц таму выступіла з заявай па справе Чырвонага касцёла адносна запазычанасці, якая ўзнікла раптам, можна сказаць, "з паветра". Былі налічаныя велізарныя сумы, якія парафія павінна аплаціць, хоць гэта выглядае даволі несправядліва і непрыгожа.

У сувязі з нядаўнім інцыдэнтам у Чырвоным касцёле, калі прадстаўнікі сілавых структур заблакавалі ў ім усе ўваходы, я заявіў рашучы пратэст.

Зразумела, што падобныя дзеянні абсалютна недапушчальныя і мы ніколі не пагодзімся з парушэннем права людзей на свабоду веравызнання.

**— Якім чынам можна паспрыяць вырашэнню гэтай складанай сітуацыі?**

— Перадусім малітвай. Я заклікаў да асаблівай малітвы святароў і ўсіх вернікаў нашай архідыяцэзіі, каб гэтая сітуацыя як найхутчэй вырашылася. Мяне парадавала, што мой зварот імгненна знайшоў водгук, прычым не толькі сярод католікаў.

Я вельмі ўдзячны ўсім людзям, якія сабраліся ўчора на малітву, на святую Імшу ў нашых касцёлах, а таксама ўсім тым, хто нас падтрымаў.

Вось, напрыклад, група праваслаўных жанчын прыйшла ўчора ў нашу катэдру, каб разам з намі маліцца аб міры і згодзе, пра як мага хутчэйшае вяртанне арцыбіскупа Кандрусевіча на Радзіму. Дзякуй ім за гэта!

Я лічу, гэта важна, што цяжкасці нас не падзяляюць, а аб'ядноўваюць. Разам мы іх хутчэй пераадолеем. Таму яшчэ раз заахвочваю ўсіх вернікаў да трывалай малітвы і салідарнасці ў кожнай жыццёвай сітуацыі.

*Размаўляў **дк. Мікола Гракаў**, Catholic.by*

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Вашкель Р.М.** *(Дворнае Сяло)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Ганна Пілецкая** *(Новалукомль)*, **Трайко Я.А.** *(Карасіна)*, **Ванда Дзенісенка** *(Жыткавічы)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Сіманёнак Г.Ч.** *(Паставы)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Галіна Данілава** *(Шуміліна)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Яніна Парфяновіч** *(Пялікі)*, **Баляслава Немыцкая** *(Паставы)*, **Лебедзева Е.Е.** *(Бягомль)*, **Ядвіга Жолнер** *(Муцеўшчына)*, **Часлава Паўлючонак** *(Крапіўнае)*, **Ядвіга Чорах** *(Мілты)*, **Іван Паўлючонак** *(Студзяніца)*, **Валянціна Голуб** *(Магіліцы)*, **Рудзінская Р.А.** *(Яцкавічы)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Ніна Шпак** *(Друйск)*, **Леакадзія Кашчыц** *(Ашмяны)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Феліцыя Небышынец** *(Забашэвічы)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Ядвіга Розель** *(Ашмяны)*, **Зоя Шпак** *(Пагошча)*, **Ганна Анішкевіч** *(Паставы)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Ірына Брэхун** *(Глыбокае)*, **Часлава Садоўская** *(Глыбокае)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Лоўкіс Л.В.** *(Навасёлкі-2)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **Аліна Бервячонак** *(Прусы)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Соф'я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Вольга Завадская** *(Захарнічы)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Станіслава Кавалёнак** *(Прусы)*, **Святлана Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жанна Юрык** *(Глыбокае)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

# Святы ружанец



**Кастрычнік – месяц ружанцовай малітвы. У гэты перыяд Касцёл асаблівым чынам заахвочвае нас маліцца на ружанцы. Глыбіня веры хаваецца ў гэтай, здавалася б, простай малітве.**

**А што вы ведаеце пра гэтую традыцыйную каталіцкую малітву – магутную зброю хрысціян? Праверце свае веды, прайдзіце тэст.**

**1** Што было прататыпам малітвы на ружанцы?



**А.** Гадзінкі
**Б.** Псалтыр
**В.** Калядкі

**2** Хто лічыцца айцом ружанцовай малітвы?



**А.** Святы Францішак
**Б.** Святы Дамінік
**В.** Святы Ян Павел II

**3** Колькі існуе частак Святога ружанца?



**А.** 2
**Б.** 3
**В.** 4

**4** Колькі налічваецца таямніц у кожнай частцы ружанца?



**А.** 3
**Б.** 5
**В.** 7

**5** Хто ўвеў чацвёртую частку ружанца?



**А.** Святы Дамінік
**Б.** Святы Ян Павел II
**В.** Папа Бэнэдыкт XVI

**6** Як называецца частка ружанца, якую дадаў Папа Ян Павел II?



**А.** Радасныя таямніцы
**Б.** Таямніцы Святла
**В.** Таямніцы Шчасця

**7** Хрост Езуса Хрыста ў Ярдане гэта адна з якіх таямніц?



**А.** Радасных
**Б.** Хвалебных
**В.** Святла

**8** У які дзень тыдня Касцёл моліцца таямніцамі Святла?



**А.** Нядзеля
**Б.** Серада
**В.** Чацвер

**9** Ружанцовая малітва распачынаецца знакам крыжа, а потым:



**А.** Апостальскі сімвал веры
**Б.** Ойча наш
**В.** Тваёй абароне аддаёмся

**10** На ружанцы пасля кожнай малітвы "Хвала Айцу..." вымаўляецца малітва: "О мой Езу, прабач нам грахі нашыя..." Як называецца гэтая малітва?



**А.** Акт пакуты
**Б.** Фацімская малітва
**В.** Малітва Святога Дамініка

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

*Правільныя адказы на старонцы 16*





# Маліцеся за святароў, бо яны моляцца за вас да апошняга ўздыху!

**Фотаздымкі святара, які служыць Імшу проста на сваім бальнічным ложку, бо ў яго няма сілы ўстаць, імгненна распаўсюдзіліся ў сацыяльных сетках, і не толькі ў азіяцкім рэгіёне, паведамляе credo.pro.**

У сваім лісце айцец Іосіф Чан Цін Чук (Lm Trần Chính Trực), які служыць у Танхуа (В'етнам), заклікае наведваць хворых састарэлых святароў, прыкаваных да ложка. Усё жыццё святара – гэта служэнне ад супольнасці да супольнасці, а потым хваробы, дрэннае здароўе, бальнічны ложак... Маліцеся за іх!

Як паведамляе фэйсбук-старонка Catholic Treasurers, на фота айцец Пётр Андрэус. Ён цяжка хворы на рак і знаходзіцца ў Сінгапуры. Айцец служыць святую Імшу, не ўстаючы з ложка. Хворы святар просіць маліцца не толькі за сябе, але і за ўсіх хворых людзей ва ўсім свеце.

## Малітва за святароў

**Ойча Нябесны, Тваёй апецы давяраем нашых пастыраў, якія падаюць нам хлеб слова Божага і Хлеб Эўхарыстычны. Дай ім сілу для працы і айцоўскае сэрца, каб мы праз іх паслугу маглі дайсці да збаўлення вечнага! Амэн!**

## На кастрычнік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**2 кастрычніка – дзень нараджэння адзначае кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*;

**4 кастрычніка – дзень нараджэння адзначае кс. канонік Віктар Місевіч** *(Віцебск)*, **імяніны адзначаюць кс. прэлат Францішак Кісель** *(Полацк)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*;

**7 кастрычніка – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае кс. Алег Хмылко** *(Полацк)*;

**8 кастрычніка – дзень нараджэння адзначаюць кс. Іван Кароткін** *(Дрысвяты)*, **а. Кляменцій Верт SJ** *(Віцебск)*;

**11 кастрычніка – імяніны адзначае кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*;

**12 кастрычніка - гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць кс. Алег Зямчонак** *(Віцебск)*; **кс. Уладзіслаў Шарковіч** *(Глыбокае)*;

**13 кастрычніка – імяніны адзначаюць кс.канонік Эдвард Ахрамовіч** *(Опса)*, **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*;

**18 кастрычніка – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае кс. канонік Андрэй Аніскевіч, дырэктар Карытас** *(Віцебск)*;

**22 кастрычніка – дзень нараджэння адзначае кс. Лешак Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*; **імяніны адзначае кс. Алег Хмылко** *(Полацк)*;

**25 кастрычніка – дзень нараджэння адзначае кс. Андрэй Вашчук SDS** *(Віцебск)*;

**28 кастрычніка – імяніны адзначае а. Тадэвуш Кавальскі OFMcap** *(Докшыцы, Бягомль)*.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

# Каляндар на кастрычнік



**Кастрычнік – месяц ружанцовай малітвы.** У гэты перыяд Касцёл асабліва заахвочвае нас маліцца гэтай малітвай.

Ружанец (на лаціне rosarium – ружавы вянок) пэўная форма малітвы, паслядоўнасць якой адлічваецца нібы па пялёстках ружы.

Айцом ружанца лічыцца святы Дамінік. Паданне гаворыць, што так маліцца навучыла яго Сама Найсвяцейшая Дзева. Яна і даручыла яму распаўсюджваць малітву па ўсім свеце. Але гэта не быў ружанец у яго сучаснай форме. Ружанец у тым выглядзе, на якім мы молімся зараз, склаўся дзякуючы даміліканцу Алану дэ ля Рош (1428-1475). Ён усталяваў па колькасці псалмоў у Псалтыры 150 "Вітай, Марыя", падзеленыя на 15 дзясяткаў, кожнаму з якіх папярэднічала малітва "Ойча наш". Каб распаўсюдзіць гэтую малітву, ён арганізаваў першыя колы св. Ружанца. У XVI стагоддзі ружанец быў канчаткова падзелены на тры часткі, кожная з якіх уключала пяць таямніц (у 2002 годзе была дададзеная яшчэ адна, чацвёртая частка).

**1 кастрычніка — успамін св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус, панны і доктара Касцёла.**



Тэрэза Мартэн нарадзілася 2 студзеня 1873 г. у горадзе Алансон у Нармандыі (на паўночным захадзе Францыі). Яе тры сястры ўступілі ў Кармэль. Іх маці рана памерла, і старэйшая сястра Паўліна заняла яе месца і выхоўвала маленькую дзяўчынку. Але пасля і Паўліна сама прыйшла ў кляштар. Пакутуючы ад расстання, св. Тэрэза захварэла. У чатырнаццацігадовым узросце яна сама папрасіла прыняць яе ў кармеліцкі кляштар. Але біскуп і Папа Леў XII адхілілі яе просьбу. Праз год дзяўчына ўсё ж такі атрымала дазвол на ўступленне.

Толькі дзевяць гадоў св. Тэрэза была кармеліткаю. Сёстры з супольнасці часта яе не разумелі і ставіліся скептычна. Духоўныя пакуты Тэрэзы абцяжарваліся пакутамі фізічнымі, которыя яна цярпела праз цяжкую форму сухотаў, на якія захварэла ў кляштары. Гэтыя цярпенні Тэрэза хацела ахвяраваць за грэшнікаў.

Святасць Тэрэза разумее як бязмежны давер да Бога і стаўленне дзіцяці ў адносінах да Яго міласэрнай любові. Свой "малы шлях" да святасці Тэрэза ад Дзіцятка Езус прайшла праз поўнае перапрычэнне сябе Богу і ахвяры за збаўленне свету. Яна адышла ў вечнасць 30 верасня 1897 г. ва ўзросце 24 гадоў. У 1997 г. падчас Сусветнага дня моладзі ў Парыжы Слуга Божы Ян Павел II абвясціў святую Тэрэзу, якую часам называюць "Малой", доктарам Касцёла.

**2 кастрычніка — успамін св. Анёлаў-ахоўнікаў.**



**7 кастрычніка — успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай.**

**10 кастрычніка — гадавіна пасвячэння катэдральнага касцёла.**

**15 кастрычніка — успамін св. Тэрэзы ад Езуса, панны і доктара Касцёла.**



Тэрэза Авільская нарадзілася 28 сакавіка 1515 года ў Авіле (Іспанія). З дзяцінства будучая святая вызначалася любоўю да кніг і глыбокай пабожнасцю. У дваццацігадовым узросце таемна збегла з дому і ўступіла ў кармеліцкі кляштар у Авіле, узяўшы пры гэтым імя ад Езуса. Пасля нядоўгага знаходжання ў манастыры Тэрэза цяжка захварэла, яе спаралюшала, але яна перамагла хваробу. У манастыры Тэрэза набыла багаты містычны досвед: ёй неаднаразова з'яўляўся Езус, а херувім працяў яе сэрца вогненнай дзідай. Перажыўшы глыбокі містычны вопыт, святая імкнулася да дасканаласці жыцця, і таму ў 1562 годзе ў Авіле заснавала першы рэфармаваны кармеліцкі кляштар, у якім шмат увагі прысвячала малітве, самотнасці, суровай аскезе. У кляштары жыло ўсяго дванаццаць сясцёр – па ліку апосталаў.

Тэрэза Авільская прайшла пешшу па ўсёй Іспаніі 5600 кіламетраў. Напрыканцы яе жыцця ў Іспаніі было шаснаццаць такіх рэфармаваных супольнасцей, якія сталі ядром новай галіны кармеліцкага манаства – "басаногіх кармелітак". Самым значным творам святой Тэрэзы стаў "Унутраны замак". У гэтым містычным трактаце яна адлюстроўвае душу як замак са шматлікімі пакоямі, у цэнтры якога знаходзіцца Хрыстус.

Святая Тэрэза памерла ў 1582. У 1622 г. Папа Рыгор XV далучыў яе да ліку святых. У 1970 г. Папа Павел VI абвясціў яе доктарам Касцёла.

Святая Тэрэза Авільскай лічыцца галоўнай нябеснай заступніцай Іспаніі.

**16 кастрычніка — успамін св. Маргарыты Марыі Алякок, панны.**



Нарадзілася 22 ліпеня 1647 г. у Лёткуры (Бургундыя, Францыя) у сям'і паважаных гараджанаў. У 1671 г. уступіла ў закон Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі (візіткі) у Парэ-ле-Маньяль. У 1673 г. французская манахіня Маргарыта Марыя Алякок атрымала бачанне Езуса, у якім Ён папрасіў Касцёл шанаваць Яго Найсвяцейшае Сэрца. Сярод шматлікіх абяцанняў Езуса, перададзеных праз св. Маргарыту, было: «Абяцаю ў шчодрай міласэрнасці Майго Сэрца, што ўсім, хто на працягу дзевяці месяцаў у першыя пятніцы будзе прымаць святую Камунію, Мая ўсемагутная любоў адорыць ласкаю шчырага пакаяння; што не памруць ні ў стане без Маёй ласкі, ні без святых сакрамантаў, і што Сэрца Маё станецца для іх бяспечным прытулкам у часіну смерці».

**17 кастрычніка — успамін св. Ігнацыя з Антыёхіі, біскупа і мучаніка.**



Ігнацый – адзін з першых сведкаў Хрыста. Яго называлі Тэофорос (з грэцк. – "той, хто нясе Бога", або "несены Богам"), звязваючы гэта з тым, што св. Ігнацый быў тым дзіцём, якога Хрыстус, узяўшы на рукі, паставіў перад вучнямі са словамі: "Хто прыме адно з такіх дзяцей у імя Маё, той Мяне прымае" (гл. Мк 9, 36–37). Св. Ігнацый быў вучнем св. Яна Багаслова і на працягу сарака гадоў з'яўляўся біскупам Антыёхіі, у той час значнага горада ў Малой Азіі на тэрыторыі сучаснай Турцыі. Вядома, што ў кіраванне імператара Траяна Ігнацый быў адпраўлены пад вартай у Рым у 107 г., дзе прыняў пакутніцкую смерць. Яго разадралі львы на арэне цырка. Існуюць судовыя акты св. Ігнацыя, якія апісваюць працэс суда і прысуд. У іх указваецца дата яго мучаніцкай смерці – 20 снежня. У гэты дзень Ігнацыя памінае Усходняя Царква. Аднак Заходні Касцёл пасля літургічнай рэформы 1969 г. адзначае дзень яго памяці 17 кастрычніка, паколькі менавіта гэтая дата пазначана ў больш ранім сірыйскім варыянце Усходняга мартыралёгу.

**22 кастрычніка — успамін святога Папы Яна Паўла II.**



22 кастрычніка 1978 года ўрачыста распачаўся пантыфікат Вялікага Папы Яна Паўла II, які доўжыўся 27 гадоў і быў адным з самых працяглых пантыфікатаў у гісторыі Каталіцкага Касцёла За час свайго служэння Папа здзейсніў 146 апостальскіх візітаў на тэрыторыі Італіі, 104 замежныя візіты, абвясціў 1338 чалавек бласлаўлёнымі і 482 чалавекі святымі. Сэрца Пантыфіка, шырока адкрытае для ўсіх, а перадусім для Бога, перастала біцца 2 красавіка 2005 г. Ён быў абвешчаны святым 27 красавіка 2014 г.

**28 кастрычніка — свята св. Сымона і Юды, апосталаў.**



Апостал Сымон перад тым, як далучыўся да супольнасці дванаццаці, належаў да палітычна-рэлігійнай габрэйскай групоўкі, чальцы якой называлі сябе зелотамі (арамейск. кананітамі) – руплівымі, змагарамі. Пасля ўваскрасення Хрыста ён абвяшчаў Евангелле ў асноўным у Егіпце і Арменіі.

Апостал Юда Тадэвуш, які падчас развітання з Хрыстом спытаў у Яго: "Пане, чаму Ты хочаш аб'явіць Сябе нам, а не свету?", напачатку абвяшчаў Евангелле ў Эдэсе, дзе ахрысціў мясцовага цара і ўсіх яго падданых. У знак падзякі за гэта цар Эдэсы падарыў апосталу выяву Хрыста, якую Юда Тадэвуш заўсёды насіў на грудзях. Паводле паданняў, абодва гэтыя апосталы вялі місіянерскую дзейнасць у Сірыі, Персіі і Месапатаміі і разам былі забітыя дубінамі каля 71 г. (па іншых звестках, Сымон быў распілаваны).

Цела св. Юды з цягам часу перавезлі ў Рым. І па сённяшні дзень яно знаходзіцца ў базыліцы св. Пятра, дзе шматлікія вернікі аказваюць яму вялікую пашану. Папа Павел III сваім рашэннем ад 22 верасня 1548 г. удзяліў поўны адпуст тым, хто будзе маліцца каля святых рэліквій Апостала ў дзень яго свята, г. зн. 28 кастрычніка.

Святы апостал Сымон з'яўляецца апекуном дрывасекаў і лясных работнікаў, а заступніцтва св. Юды Тадэвуша просяць у безвыходных сітуацыях. Вядома, што той, хто ў самых складаных жыццёвых сітуацыях з глыбокаю верою звернецца да св. Юды, абавязкова атрымае дапамогу: калі не тую ласку, пра якую просіць, то духоўную моц, каб несці свой крыж, цалкам аддаючыся Божай волі.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

## Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.
Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298

# Чаму Святая Марыя плача?

**Слёзы любога чалавека заўсёды прыцягвалі ўвагу навакольных. А тут плача Святая Марыя! Хто ж і што з'яўляецца прычынай слёз нашай Нябеснай Матулі?**

19 верасня 1846 года ў Францыі, непадалёк ад невялікай вёсачкі Ля Салет у Альпах, упершыню Марыя аб'явілася двайм дзецям – Максіміну і Мэлані, якія пасвілі кароў. Дзеці ўбачылі Яе, Якая сядзіць на камені і плача. Марыя запыталася ў дзетак, ці добра яны моляцца, і прасіла маліцца. "Калі мой народ не захоча быць паслухмяным, Я буду вымушаная адпусціць руку Майго Сына... Яна такая моцная і цяжкая, што Я больш не змагу яе ўтрымліваць... Абавязкова перадайце гэта ўсяму Майму народу!"

Падчас першага аб'яўлення Маці Божая не адкрывае заслону будучага жыцця, а толькі просіць усіх нас маліцца і памятаць пра Бога.

Божыя запаведзі – найважнейшы напрамак сапраўднага шчаслівага жыццё, кірунак у будучыню. Гэтая просьба Марыі найбольш актуальная ў нашай сучаснасці. Трэба толькі пачуць заклік маліцца і выконваць яго. Толькі з Богам, у Божай Любові і Міласэрнасці, ва ўзаемным прабачэнні і пашане, згодзе і вытрымцы ў нас ёсць бучыня і жыццё! Грэх, гвалт, нянавісць ламаюць людскія лёсы і не даюць шанцаў на шчаслівае жыццё.

У плыні хуткацечнага часу мы развучыліся абмяркоўваць, планаваць, прабачаць. Паведамленні і размовы па "мабілах" на хаду, бо няма часу, нават няма калі думаць. Мы не заўважаем, што "праляцелі" каля самага галоўнага, важнага, шчаслівага ў жыцці. Спыніцеся! Угледзьцеся ў вобраз Марыі ў слязах і падумайце: а чаму Яна плача? Удумайцеся!

Пра Марыю з Ля Салет у нашай дыяцэзіі даведаліся трыццаць гадоў таму, калі летам 1990-га прыехалі ў Беларусь місіянеры-салетыны ксёндз Альфрэд Пяхота і ксёндз Зянон Шчонхар. Яны пачыналі працу ў Браслаўскім раёне ў вёсках Дрысвяты і Пеліканы, пасля былі Відзы, дзе святары працуюць і цяпер.

У 1993 годзе прыехаў на місійную працу ў вёску Далёкія ксёндз Анджэй Бочар. У 2000 годзе біскуп Уладзіслаў Блін запрасіў ксяндза Анджэя ў новазасnаваную парафію на вуліцы Чкалава ў Віцебску. Пачыналі з невялічкай каплічкі ў недабудаваным памяшканні спарткомплекса, дзе паўстаў наш касцёл і быў названы ў гонар Маці Божай Салетынскай, але потым перайменаваны ў гонар Духа Святога.

Нашаму касцёлу ад 23 ліпеня споўнілася дванаццаць гадоў. Цяпер тут нясуць паслугу беларускія святары-сальватарыяне айцец Аляксандр і айцец Андрэй. У 2010 годзе быў створаны апасталат сям'і Маці Божай Салетынскай АСС (ARS), які працуе і зараз. Ад самага заснавання ў касцёле 19 числа кожнага месяца вернікі моляцца падчас спецыяльнага набажэнства да Маці Салетынскай. Нас цяпер дванаццаць вернікаў, якія маюць дыпломы ARS.

Дзякуючы Богу і Марыі гэты верасень шчодры на добрыя падзеі ў нашым касцёле. Намаганнямі нашага пробашча а. Андрэя і вікарыя а. Аляксандра, а таксама нашай катэхеткі Аксаны да Першай Камуніі падрыхтаваліся пятнаццаць дзетак, которыя ўпершыню прымуць Пана Езуса ў Камуніі 20 верасня, а 27 верасня прыступіць да сакраманту Канфірмацыі каля пяцідзесяці парафіянаў. Мы дзякуем добраму Богу і



Марыі за такія вялікія дары для парафіі!

Запрашаем усіх вернікаў Беларусі задумацца над сучаснасцю нашай Бацькаўшчыны. Марыю трэба суцешыць малітвай і жыццём паводле Божых запаведзяў! Запрашаем да апостальства ў касцёл Святога Духа ці непасрэдна да ксяндза Анджэя Бочара ў Далёкія. Кантакты ў рэдакцыі.

Трывайце ў Божай міласэрнасці і апецы Марыі!

*Адказная малітоўнай групы АСС **Рэгіна Іванова***

# "Візантыйскі патрыярхат" – псеўдарэлігійная секта, якую ўзначальвае былы ксёндз

**Многія рэлігійныя (і не толькі) арганізацыі ў Беларусі апошнім часам атрымліваюць дзіўныя пасланні ад нейкага "Візантыйскага патрыярхату". Тлумачым, хто насамрэч стаіць за гэтай "гучнай" назвай.**

"Візантыйскі каталіцкі патрыярхат", або "Украінская прававерная грэка-каталіцкая царква" не мае нічога супольнага з Беларуссю, але апошнім часам чамусьці вельмі актыўна спекулюе на грамадска-палітычным крызісе ў нашай краіне. Іх дзіўныя і адарваныя ад рэчаіснасці заявы датычацца таксама Каталіцкага Касцёла на Беларусі і арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча.

Калі раптам хтосьці атрымаў падобныя матэрыялы ад гэтай арганізацыі — не варта звяртаць на іх увагу: пад імем "Візантыйскага патрыярхату" дзейнічае псеўдарэлігійная секта з Украіны, якую ўзначальвае былы чэшскі ксёндз.

Секта ўзнікла з групы асоб, якія ў 2003–2008 годзе адкалоліся ад Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы, а ў 2011 годзе абвясцілі сябе "патрыярхатам" на чале з былым каталіцкім ксяндзом з Чэхіі Антанінам Дагналам, ад імя якога сектантаў называюць таксама "дагналаўцамі".

Антанін Дагнал нарадзіўся ў 1946 г. у Чэхіі, у 1972 годзе прыняў святарскае пасвячэнне ў дыяцэзіі Оламаўца. Пэўны час ён з'яўляўся пробашчам парафіі ў Слушовіцах, дзе звярнуў на сябе ўвагу дзіўнымі паводзінамі. Па сведчанні біскупа Оламаўцкага Яна Граўбнера, ксёндз Дагнал часта паводзіў сябе неадэкватна. У прыватнасці, ён забараняў вернікам прымаць лекі, прымушаў сваіх паслядоўнікаў начаваць у касцёле на падлозе, распісаў усе сцены святыні цытатамі са Святога Пісання.

Ёсць звесткі, што Антанін Дагнал з 1978 года з'яўляўся сакрэтным супрацоўнікам камуністычных спецслужбаў пад псеўданімам Тонэк і пад нумарам 23064.

У 1991 годзе святар-неадэкват пакінуў Чэхію і пераехаў у Варшаву, дзе перайшоў у грэка-каталіцкі абрад і прыняў манаства. Але і пасля гэтага ён працягваў абвяшчаць дзіўныя прынцыпы, вельмі далёкія ад сутнасці манаскага паклікання і хрысціянскага ладу жыцця.

Імкнучыся да ўлады ў Касцёле, новаспечаны манах вяртаецца на радзіму, дзе спрабуе стаць біскупам і актыўна пратэстуе супраць прызначэння Святым Пасадам новага грэка-каталіцкага біскупа ў Чэхіі. Пры гэтым ён выкарыстоўваў тыя самыя правакацыйныя прапагандысцкія метады, якія сёння скіраваў у бок нашай міралюбнай краіны. У выніку скандалу былы ксёндз пакінуў радзіму і перанёс сваю дзейнасць ва Украіну, у Падгорацкі манастыр айцоў базыліянаў (Бродаўскі раён Львоўскай вобласці).

У 2005 г. згуртаваная вакол Антаніна Дагнала група манахаў была выключана з Базыліянскага ордэну дэкрэтам яго ўладаў, пацверджаным Кангрэгацыяй па справах Усходніх Касцёлаў "за вялікую віну супраць манаскіх і касцёльных законаў, у тым ліку пастаяннай непаслухмянасці".

Такім чынам, на чале групы, якая называе сябе "Візантыйскім каталіцкім па-



трыярхатам", стаяць былыя манахі-базыліяне, выгнаныя з ордэна.

Сярод іх сам былы ксёндз з Чэхіі Антанін Дагнал, які называе сябе "патрыярхам Іллёй", Рычард Шпіржык з Чэхіі, Васіль Гіцюк з Украіны, Роберт Обэргаўсер з Чэхіі і іншыя асобы, якія называюць сябе біскупамі, хоць ніхто іх законным чынам не пасвячаў у гэты сан.

Дзейнасць секты заключаецца ў правакацыйных выступленнях прапагандысцкага характару, у якіх самазванцы займаюцца ачарненнем іерархаў Каталіцкага Касцёла і Праваслаўнай Царквы. У мінулым яны ўжо абвясцілі "анафему" на Папу Бэнэдыкта XVI і Патрыярха Кірыла, а цяпер крытыкуюць Старшыню Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча за яго заклікі да спынення насілля, дыялогу, міру і згоды ў Беларусі.

Чым выклікана такая зацікаўленасць іншаземных сектантаў падзеямі ў Беларусі, не зусім зразумела.

У любым выпадку, групу пад назвай "Візантыйскі каталіцкі патрыярхат" нельга лічыць рэлігійнай арганізацыяй і ўсур'ёз ставіцца да яе неадэкватных і правакацыйных заяў.

*Catholic.by*

## Хвала Хрысту!



*26 верасня адзначае Дзень нараджэння* ***ксёндз Андрэй Аніскевіч.***

*З сардэчнай цеплынёй дасылаем Вам, паважаны ксёндз Андрэй, самыя шчырыя словы віншавання! Жадаем моцнага здароўя, душэўнага спакою і добрага настрою! Няхай Усемагутны Божа ніколі Вас не пакідае, а Маці Божая хай ахіне сваёй апекай!*

*Пан Бог адарыў Вас шчырай і адкрытай душой, надзяліў дабрынёй, разуменнем і мудрасцю ў духоўных і жыццёвых справах. Мы ўдзячныя Вам за цяпло Вашага сэрца і дзякуем Богу за дар Вашага жыцця і за ласку спаткання з Вамі на нашай зямлі!*

***З вялікай павагай і малітвамі за Вас, вернікі касцёла Святога Казіміра ў Лепелі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*30 верасня будзе адзначаць Дзень нараджэння пробашч Нацыянальнага санктуарыя Маці Божай у Будславе* ***ксёндз Дзмітрый Дубовік.***

*Шаноўны ксёндз Дзмітрый! Прыміце нашы шчырыя пажаданні добрага здароўя, сіл, цярпення, душэўнага спакою і добрага настрою! Шчыра дзякуем за вялікую працу ў нашай святыні, за клопат пра кожнага. Нізкі паклон Вам, шаноўны святар, за сумесныя малітвы, за дабрыню, за разуменне і цярплівасць. Божай падтрымкі ва ўсіх справах, багатага плёну ва ўсіх задумках, шчырых вернікаў на Вашым шляху! Няхай Пан Бог шчодра адорвае Вас усімі неабходнымі ласкамі, памнажае мудрасць і падтрымлівае ў цярпенні!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі Будслаўскай парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі з вёскі Ілава***

## Хвала Хрысту!

*З нагоды чарговай гадавіны святарскага пасвячэння шчыра віншуем нашага* ***ксяндза Валерыя Марціноўскага!*** *Выказваем удзячнасць за нястомную працу на Божай ніве, за цудоўныя казанні, за добразычлівасць і чулае сэрца. Жадаем далейшага росту ў святарскім пакліканні, апекі Маці Божай і любові Езуса Міласэрнага, добрага здароўя і бадзёрасці, супакою і павагі вернікаў! Молімся за Вас, шаноўны ксёндз Валерый!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Езуса Міласэрнага ў Паставах***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*З вялікай павагай і радасцю дасылаем сардэчныя словы віншавання нашаму дарагому* ***ксяндзу-пробашчу Тадэвушу Кавальскаму*** *ў чарговую гадавіну святарскага пасвячэння (19 верасня).*

*Паважаны ойча Тадэвуш! Жадаем Вам, каб Вы заўсёды адчувалі блізкасць Пана Бога, Якому верна служыце ўжо многа гадоў. Няхай добры Бог адорвае Вас ласкамі і супакоем, дапамагае ў выкананні святарскай паслугі, асабліва ў гэты складаны час! Яшчэ мы жадаем моцнага здароўя, радасці, даўгалецця, Божага благаслаўлення Вам і Вашым родным. Доўгай і плённай службы Вам, ойча Тадэвуш!*

***З малітвамі і любоўю, вернікі парафіі Хрыста Валадара ў Бягомлі***

## Хвала Хрысту!



*Наш паважаны* ***ксёндз Сяргей Сурыновіч*** *9 верасня адзначыў імяніны.*

*Віншуем і дасылаем самыя прыгожыя і шчырыя пажаданні нязгаснага запалу ў паслузе на карысць Богу і людзям, штодзённай радасці, душэўнага супакою і аптымізму, моцнага здароўя на ўсё жыццё!*

*Дзякуем, ксёндз Сяргей, за Вашае добрае сэрца, за клопат пра нас і парафію, за шчырую малітву! Божага благаслаўлення Вам і Вашым родным!*

***Вернікі капліцы святога Юзафа ў Друйску***

## Хвала Хрысту!

*Шаноўны* ***ксёндз Сяргей!*** *Шчыра віншуем Вас з імянінамі! Жадаем Вам моцнага здароўя, поспехаў у нялёгкай працы, нястомнай радасці. Няхай добры Бог, Які паклікаў Вас да святарства, заўсёды натхняе і ўзмацняе, а Маці Божая Ласкавая няхай заўжды падтрымлівае і ахоўвае Вас! Плённай працы і Божага благаслаўлення на доўгія гады!*

*Няхай Ваша мудрасць і дабрыня, клопат пра людзей заўсёды будуць для нас прыкладам у жыцці. Дзякуем за ахвярную працу, за чулае сэрца, за ўвагу да кожнага з нас.*

***З вялікай удзячнасцю і павагай, вернікі парафіі Святой Тройцы ў Друі***

## Хвала Хрысту!



*13 кастрычніка Дзень Анёла адзначае наш* ***душпастыр Эдвард Ахрамовіч****.*

*Шаноўны ксёндз Эдвард! Прыміце нашы шчырыя віншаванні з гэтай нагоды! Жадаем Вам моцнага здароўя, Божай дапамогі ў служэнні касцёлу, апекі Маці Божай і Анёла Ахоўніка!*

***З павагай і малітвай, вернікі парафіі Св. Яна Хрысціцеля (аг. Опса)***

## Бясцэнны дар

*Святары для нас, вернікаў, – бясцэнны дар ад Пана Бога.*

*І ў радасці, і ў горы нашыя сэрцы накіраваныя да іх. Мы добра ведаем, што яны выслухаюць, дадуць слушную параду, а калі трэба, укажуць на заганы. Проста і выразна, прынцыпова і настойліва.*

*21-га верасня адзначыў свой дзень нараджэння наш шаноўны* ***кс. Альфрэд Пяхота.*** *Ужо дваццаць гадоў ён працуе пробашчам у нашай парафіі. Не пералічыць усяго, што зроблена ім для касцёла і парафіі! Але самае галоўнае – праз яго рукі мы яднаемся з Езусам Хрыстом. На яго рукі мы ўскладаем нашы малітвы і просьбы, а ён узносіць іх да Бога.*

*Так склаліся абставіны, што наш любімы святар быў вымушаны доўгі час заставацца ў сябе на радзіме. І тады мы адчулі, як апусцеў без яго наш храм, як не хапае нам яго апекі, добрага слова, усмешкі. Без кс. Альфрэда мы сталі сіротамі, авечкамі без пастыра і штодзённа маліліся за яго. А калі даведаліся, што ён вернецца, – плакалі ад радасці.*

*Віншуем Вас, шаноўны кс. Альфрэд, з Днём нараджэння! Жадаем Вам моцнага здароўя, радасці, шчасця на кожны дзень. Няхай Ваша святарства будзе заўсёды пад Божай апекай! Мудрасці і цярплівасці, бо з намі, авечкамі непаслухмянымі, Вам нялёгка. Вы – тая зорка, якая асвятляе нам шлях да Божага Валадарства. ВІНШУЕМ, ДЗЯКУЕМ, ЛЮБІМ!*

*Карыстаючыся нагодай, шчыра дзякуем кс. Анджэю з парафіі, што ў Далёкіх, які падтрымліваў нас у гэты нялёгкі для парафіі час. Няхай добры Божа аддзячыць Вам!*

***Вернікі парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Відзах***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*21 верасня адзначыў Дзень нараджэння наш* ***ксёндз Аляксей Ляшко.***

*Шаноўны ксёндз Аляксей! Шчыра віншуем Вас з гэтай нагоды і складаем для Вас букет найпрыгажэйшых пажаданняў: моцнага здароўя, поспехаў у нястомнай святарскай працы і як афіцыялу Біскупскага суда – цярплівасці і моцы, каб весці людзей да Бога!*

*Няхай шчасце і супакой жывуць у Вашым доме, Пан Бог хай абараняе ад зла, хваробы і смутку, а Маці Божая хай ахінае сваёй любоўю і ласкай, моліцца за Вас перад Божым тронам і прытуляе да свайго сэрца!*

*Дзякуем Вам за навучанне Божаму слову, за Вашае добрае сэрца! Дзякуем Вашай маме за выхаванне сына-святара. Няхай Усемагутны Бог адорыць яе здароўем, а анёл-ахоўнік заўсёды беражэ і падтрымлівае!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла святога Айца Піа ў Лёзне***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Шчыра віншуем* ***ксяндза Кшыштафа Сілкоўскага*** *з пастаўскага касцёла Святога Антонія Падуанскага з Днём нараджэння! Дзякуем за прыклад веры, за абвяшчэнне Божага слова, за сакраманты, якія ён нам удзяляе. Няхай Бог аддзячыць яму сваёй міласэрнасцю, адорыць моцным здароўем, напоўніць дарамі Духа Святога! Ахінаем сваёй малітвай!*

***З павагай, парафіяне***

## Хвала Хрысту!



*Паважаны* ***ксёндз Славамір Самковіч!*** *Віншуем Вас з Днём нараджэння! Моцнага Вам здароўя, апекі Маці Божай, добразычлівых парафіян, дапамогі Нябеснага Заступніка ў працы на духоўнай ніве!*

*Сардэчна дзякуем за Вашыя добрыя словы, за малітву і данясенне да нашых сэрцаў Божага слова! Няхай сонечныя промні Божай міласэрнасці асвячаюць кожны дзеньВашага святарскага жыцця, надаюць сілы для здзяйснення Вашых планаў і задумак! А Анёл-ахоўнік няхай сцеражэ Вас на ўсіх шляхах! Мы шчыра жадаем, каб кожны Ваш дзень быў сонечны і шчаслівы!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Божай Міласэрнасці (аг. Пагошча Браслаўскага раёна)***

## Хвала Хрысту!



*Лужкаўская парафія касцёла святога Арханёла Міхаіла віншуе свайго паважанага былога* ***пробашча Міхаіла Татарэнку*** *з надыходам імянінаў, якія ён адзначае 29 верасня. Мы вельмі ўдзячныя Пану Богу, што дзесяць гадоў нашага жыцця, асабліва духоўнага ўзрастання і пазнання веры прайшлі менавіта з ксяндзом Міхаілам. Яго плённая праца на ніве Хрыста пасеяла ў нашых сэрцах дабрыню, любоў і міласэрнасць, наблізіла нас да касцёла. Няхай Пан Бог узнагародзіць Вас, шаноўны ксёндз Міхаіл, за адданую працу ў нашай парафіі, за абвяшчэнне Божага слова, за мудрыя казанні і за добрае сэрца! А Святы Дух хай заўсёды кіруе, падтрымлівае і беражэ Вас, Маці Божая хай прытуляе і аберагае!*

***З удзячнасцю і павагай, вернікі ўсёй Лужкаўскай парафіі***

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**4 кастрычніка 2020г., Мц 21, 33-43**

У Евангеллі Езус расказвае нам прыпавесць пра вінаграднік, гаспадара дому, вінаградараў, сваіх слугаў і сына гаспадара дому. Вобраз вінаградніка – гэта вобраз Ізраэля, народу Божага, пра якога клапоціцца Бог. Ён *пасадзіў вінаграднік, абнёс яго агароджаю, вычасаў у ім давіла, пабудаваў вежу.* Гэтыя дзеянні ўказваюць на тое, што Бог заўсёды клапоціцца пра свой народ. Яму не абыякавы як лёс Ізраэля, так і лёс любога іншага народа. Хто такія вінаградары з прыпавесці? Гэта старэйшыны і кіраўнікі народа. Менавіта ім даверыў Бог адказную місію клапаціцца пра людзей. Што ж адбываецца далей? Слугаў гаспадара дому вінаградары забіваюць і закідваюць камянямі. У гэтым месцы прыпавесць намякае на пракокаў, якія абвяшчалі Божую праўду, аднак моцна пацярпелі за яе і прынялі мучаніцкую смерць.

Нягледзячы на вераломнасць вінаградараў, гаспадар дому зноў пасылае сваіх слугаў. З гэтых словаў мы бачым, што Бог не стамляецца ў сваёй міласэрнасці і заўсёды памаятае пра чалавека. Ён жадае збавіць усіх. У сваёй бязмежнай любові Бог урэшце пасылае свайго Сына, Якога, быць можа, пасаромеюцца вінаградары. Тут лёгка здагадацца, што гаворка ідзе пра самога Хрыста. Гэта Ён – той вуглавы камень, якога адкінулі будаўнікі.

Каб лягчэй зразумець гэты ўрывак, паспрабуем уявіць сабе Хрыста, Які распавядае гэтую прыпавесць у ерусалімскай святыні. На той момант яе будаўніцтва было яшчэ не завершана. Таму Езус ужывае менавіта такі вобраз, каб слухачам было лягчэй зразумець. Так як без вуглавога каменя не змогуць разам трымацца сцены і ўвесь будынак, так без Хрыста немагчымае існаванне новага Вінаградніка – Касцёла. Езус папярэджвае, што Божае Валадарства будзе забрана ад тых, хто яго не варты. Яно будзе аддадзена таму народу, які прынясе плады яго. Ці беларускі народ можа сёння прынесці плады ў Божым вінаградніку?



**11 кастрычніка 2020г., Мц 22, 1-14**

Прыпавесць распавядае нам пра караля, які падрыхтаваў вяселле для свайго сына. Сын з прыпавесці – гэта Езус. Цікава, што Касцёл у тэалогіі называецца Абранніцай Пана, Яго Нявестай. Вясельны банкет – гэта не што іншае, як Валадарства Нябеснае. Наш Пан запрашае нас да вечнага шчасця, дзе няма смутку і журбы. З прыпавесці мы даведваемся, што кароль запрашае гасцей, аднак тыя адмаўляюцца прыйсці да яго. Кароль працягвае запрашаць, аднак запрошаныя знаходзяць масу прычын, каб не пайсці: хтосьці заняты сваім полем, хтосьці гандлем. А знайшліся і такія, што пазабівалі слугаў караля. Жудасная сітуацыя, ці не праўда: кароль запрашае гасцей на вяселле, а тыя ў адказ на гэта забіваюць пасланцоў. Менавіта гэта адбылося ў гісторыі збаўлення, калі загінулі прарокі і мучанікі. Яны былі пасланцамі Бога, якіх забілі няўдзячныя людзі.

Працяг прыпавесці апісвае нам далейшы ход падрыхтоўкі да банкету. Кароль загадвае слугам выйсці на ростані і запрашаць усіх, каго сустрэнуць. Гэты сказ можна інтэрпрэтаваць, як адкрытасць Касцёла на прысутнасць у ім людзей з розных традыцый і культур. Не толькі ізраільскі народ запрошаны на вяселле, але і ўсе іншыя народы.

На вясельным банкеце кароль заўважае чалавека, апранутага не ў святочную вопратку. Ён задае яму пытанне, у адказ на якое чалавек маўчыць. Вопратка ў гэтай прыпавесці азначае выкананне Божай волі і Божых запаведзяў на працягу жыцця. Заўважым, што ўдзелу ў Нябесным Банкеце пазбаўленыя тыя, хто самі не захацелі на яго прыйсці, хто заняты іншымі справамі і, як гэты чалавек, што прыйшоў, але не быў гатовы да яго. Таму нам варта ў шчырасці свайго сумлення пазітыўна адказаць на Божае пакліканне і праз малітву, святыя сакраманты і пабожнае жыццё падрыхтавацць сябе да сустрэчы з Панам.

**18 кастрычніка 2020г., Мц 22, 15-21**

З гэтага ўрыўка Евангелля мы даведваемся, як фарысеі шукалі, на чым можна падлавіць Езуса. Яны нават уступілі ў саюз з прыхільнікамі Ірада дзеля таго, каб абвінаваціць Хрыста. І сапраўды, пытанне, якое яны задалі Збаўцу, было няпростым. Ці варта плаціць падатак акупацыйнай уладзе? Езус убачыў іх крывадушнасць. Ён разумеў: калі скажа, што трэба плаціць падаткі, то Яго абвінавацяць у антыізраільскіх дзеяннях. Калі ж скажа, што не трэба плаціць падаткі, тады Ён будзе бунтаўніком народу. Езус просіць прынесці Яму рымскі дынар і вельмі проста тлумачыць, што цэзарава трэба аддаць цэзару, а Божае – Богу. З тым, што належыць цэзару, усё зразумела. Але што належыць Богу? Што трэба аддаць Богу? Богу належыць сам чалавек, бо ён створаны на Яго вобраз і падабенства. Мы ў сабе носім падабенства Бога, таму мы Яму належым. І задачай нашага жыцця ёсць зрабіць усё магчымае, каб вярнуцца да Пана, як бы далёка мы ад Яго ні знаходзіліся ў канкрэтную хвіліну.

Гэты ўрывак з Евангелля таксама вучыць нас, што грамадскія і рэлігійныя абавязкі не супярэчаць адно аднаму. Можна быць добрым каталікам і добрым настаўнікам, добрым каталікам і добрым чыноўнікам, добрым каталікам і добрым вайскоўцам. Грамадская сфера нашага жыцця таксама важная, і як сумленныя грамадзяне мы павінны спрыяць дабрабыту і росквіту сваёй краіны. Аднак Божае Валадарства – гэта сапраўдная мэта ўсяго нашага жыцця.

**25 кастрычніка 2020г., Мц 22, 34-40**

Мы зноў бачым, як фарысеі шукаюць, на чым бы падлавіць Настаўніка. Таму яны пасылаюць кніжніка, гэта значыць, навучэнца Закону Майсея, задаць пытанне. Адказ Хрыста поўны і даволі кароткі. Ён не займае шмат абзацаў тэксту. Трэба жыць любоўю. Святы Аўгусцін казаў: "Любі і рабі, што хочаш". Калі ты любіш па-сапраўднаму, то ніколі не пагодзішся на зло, ніколі не зробіш грэх. У тым і заключаецца пакліканне кожнага хрысціяніна – ісці дарогай любові, узрастаць у любові. Чаму менавіта любоў? Таму што сам Бог з'яўляецца Любоўю. І Яго Валадарства – гэта Валадарства любові. Там няма нянавісці і зла.

Каб быць саўдзельнікамі гэтага Валадарства, нам неабходна пазбыцца любой прывязанасці да граху. Канешне, зрабіць сваімі сіламі гэта нікому не ўдасца. Нам неабходна Божая моц і Божая дапамога, якую мы чэрпаем з малітвы і сакрамантаў. Менавіта таму такая важная нашая прысутнасць у касцёле, важны час, прысвечаны Богу на малітве, і важныя добрыя ўчынкі. Задамо сабе пытанне: "Ці можна па маіх паводзінах заўважыць, што я люблю Бога ўсім сэрцам, розумам і душою? Ці бачна па мне, што я люблю іншых людзей, як самога сябе?" Важна таксама разумець, што любоў у хрысціянскім разуменні – гэта не эмоцыя. Любоў – гэта служэнне, гэта прысвячэнне самога сябе Богу і іншаму чалавеку.

*Разважанні падрыхтаваў*
**кс. Віктар Місевіч,**
*г. Віцебск*



Св. Аўгусцін

# Зварот арцыбіскупа Кандрусевіча да вернікаў Віцебскай дыяцэзіі

## з нагоды перэгрынацыі фігуры Арханёла Міхала



**21 верасня, у свята апостала Мацвея, у Віцебску ў межах перэгрынацыі фігуры святога Арханёла Міхала па катэдрах дыяцэзій на Беларусі адбылася Імша, цэлебрацыю якой узначаліў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.**

Фігуру нябеснага апекуна Касцёла на Беларусі прынялі ў віцебскай катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага на мінулым тыдні.

Беларускія вернікі моляцца праз заступніцтва Князя нябесных войскаў, просячы спынення праследу Касцёла і мірнага вырашэння грамадска-палітычнага крызісу ў нашай краіне.

Увечары ў панядзелак цэлебрацыю святой Імшы ў гэтай інтэнцыі ў катэдральным касцёле сваёй дыяцэзіі ўзначаліў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.

Свае слова да вернікаў і іх пастыра скіраваў з выгнання Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

У ім іерарх перадусім адзначыў глыбокую сімвалічнасць прысутнасці фігуры пераможцы злога духа ў катэдры, якая мае тытул Езуса Міласэрнага.

"Розныя палітычныя і грамадскія сілы прапануюць свае спосабы вырашэння крызісу, якія, на жаль, пакуль што безвыніковыя. <...>

Вядома, што прычынай усялякага зла з'яўляецца грэх. Як маленькі і нябачны каранавірус змяніў свет да непазнавальнасці, таксама і нябачны чалавечаму воку грэх змяняе чалавека так, што ён траціць закладзены ў нас Творцам Божы вобраз. У выніку замест таго, каб быць святыняю Святога Духа, чалавек становіцца месцам прабывання злога духа.

Таму першым крокам на шляху да завяршэння крызісу павінна стаць асабістае навяртанне кожнага чалавека і супольнае навяртанне ўсяго грамадства.

Нездарма першымі словамі Езуса да людзей быў заклік: "Навяртайцеся і верце ў Евангелле". Без духоўнай перамены, якая ўключае ў сябе навяртанне да Бога і ўчынкі міласэрнасці, нельга казаць пра аднаўленне грамадства»,— падкрэсліў арцыпастыр.

Гаворачы пра веліч Божай Міласэрнасці, ён нагадаў, што, хоць чалавек адвярнуўся ад Бога, але Бог не адвярнуўся ад чалавека.

"Таму сёння, падчас нябачанага крызісу, які перажывае наша краіна, нам неабходна звярнуцца да Божай Міласэрнасці", — заахвоціў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

Карыстаючыся нагодаю, кіраўнік беларускага каталіцкага епіскапату, якому незаконна было забаронена вярнуцца на Радзіму, падзякаваў вернікам Віцебскай дыяцэзіі за малітвы аб хутчэйшым завяршэнні грамадска-палітычнага крызісу, а таксама ў яго інтэнцыі.

"Сітуацыю, у якой я знаходжуся, успрымаю як яшчэ адно Божае выпрабаванне; як крыж, які Бог усклаў на мае плечы. А ў крыжы наша надзея",— падкрэсліў арцыбіскуп.

З Віцебска фігура святога Арханёла Міхала скіруецца ў сталіцу нашай краіны, дзе 29 верасня, у свята нябеснага апекуна Касцёла на Беларусі, перэгрынацыя завершыцца ўрачыстай святой Імшой у катэдральным касцёле Найсвяцейшага Імя Марыі.

*Catholic.by*



# Помнік святому Губерту ўстанавілі ў цэнтры Гродна




**18 верасня ў цэнтры Гродна быў урачыста адкрыты помнік св. Губерту. Адкрыццё прымеркавалі да Дня горада, які абласны цэнтр традыцыйна адзначае ў трэція выходныя верасня.**

■ **Кс. Юрый Марціновіч**, *grodnensis.by*
**Леанід Шчаглоў**, *фота, belta.by*

Манументальная дэкаратыўная скульптура святога ўсталявана на перасячэнні вуліц Савецкай і Кастрычніцкай.

Над стварэннем помніка працаваў вядомы мясцовы скульптар Уладзімір Панцялееў. Аўтар распавёў, што выношваў ідэю ўвекавечання асобы святога не адзін год і нават распрацаваў адмысловы эскіз скульптуры. Аднойчы на аркуш з выявай скульптуры св. Губерта звярнулі ўвагу прадстаўнікі мясцовай улады, якія наведалі майстэрню, і прапанавалі мастаку ўвасобіць праект у жыццё.

"Праца над помнікам кіпела цягам некалькіх месяцаў, – адзначыў Уладзімір Панцялееў. – Спачатку я зрабіў мяккі макет, каб наглядна прадэманстраваць сваю задумку, а ўжо пасля ўзяўся за стварэнне арыгінальнай скульптурнай кампазіцыі. Яе сюжэт традыцыйны: святы Губерт стаіць побач з аленем.

Падобныя помнікі можна сустрэць на вуліцах шэрагу еўрапейскіх краін. Мой аўтарскі варыянт выкананы з бронзы. Мае вышыню прыкладна 85 сантыметраў і будзе ўсталяваны на двухметровай гранітнай калоне".

Па словах мастака, усталяваць скульптуру планавалася напярэдадні Рэспубліканскага фестываля нацыянальных культур, але з-за эпідэміялагічнай сітуацыі мерапрыемства адмянілі, таму ўрачыстае адкрыццё помніка адбылося ў Дзень горада.

Паводле легенды, св. Губерту падчас палявання аб'явіўся цудоўны алень з залатым крыжом паміж рагоў. Пасля гэтага знаку ён стаў адданым хрысціянінам і раздаў сваю маёмасць бедным.

Пачынаючы з сярэднявечча, святога Губерта ўшаноўвалі па ўсёй Еўропе, асабліва чынам як апекуна паляўнічых і леснікоў. У яго гонар былі названы некалькі вайсковых ордэнаў, паляўнічы замак Губертусбург пад Дрэздэнам (Германія), буйны астэроід, адкрыты ў 1886 годзе, а алень святога з'яўляецца лагатыпам зёлкавага лікёру "Jägermeister".

Ужо некалькі стагоддзяў святога Губерта як нябеснага заступніка свайго горада ўшаноўваюць гродзенцы. Сімвал святога – алень з залатым крыжам – упрыгожвае герб Гродна з 1540 года. Ён быў абраны сімвалам горада таму, што недалёка ад яго размяшчаліся багатыя паляўнічыя ўгоддзі Белавежскай і Гродзенскай пушчаў, дзе часцей за ўсё сустракаўся менавіта высакародны алень.

У тым, што на гербе Гродна алень скача праз агароджу, прасочваецца сувязь з сярэднявечнай назвай горада – "Горадзень", якая паходзіць ад слова "гарадзіць". Таксама агароджа сімвалізуе свабодалюбства гродзенцаў.



# ПАЗНАВАЙКА

**Кастрычнік – месяц, які ў Каталіцкім Касцёле прысвечаны ружанцовай малітве.**



### Адкуль узнік ружанец? Даведайся разам з Пазнавайкай.

У старажытнасці быў звычай ахвяроўваць годным людзям вянкі, сплеценыя з ружаў. Хрысціяне такім чынам ушаноўвалі Хрыста, Дзеву Марыю і святых, складаючы вянкі з ружаў на іх алтарах.

Молячыся на ружанцы, вымаўляючы з любоўю і пашанаю кожную малітву, мы нібыта зноў сплятаем вянок з пялёстак ружы, каб уславіць Хрыста і Марыю.

### Святы ружанец складаецца з 4 частак. Дапамажы Пазнавайцы правільна запоўніць табліцу.

| Назва часткі ружанца | Складаецца з | У які дзень адмаўляецца |
|---|---|---|
| Радасная | 5 радасных таямніц | Панядзелак, субота |
| Балесная | | |
| Хвалебная | | |
| Святла | | |

### Ці ведаеш ты, хто лічыцца айцом ружанцовай малітвы?

**Калі разгадаеш рэбус, даведаешся правільны адказ. Унізе выберы святога, які лічыцца айцом ружанца.**









АДКАЗ:






**Знакаміты падрэ Піа, вядомы ў гісторыі Касцёла святар, які меў на сваім целе раны Хрыста — стыгматы, вельмі любіў ружанцовую малітву і часта распавядаў, што гэта яго "зброя". Пра святы ружанец ён казаў так:**

«Імкніцеся любіць Марыю і рабіце ўсё, каб Яе любілі. Маліцеся на ружанцы, і ўсё будзе добра... Ружанец — гэта трыўмф Госпада».

**(Падрэ Піа).**



**Пазнавайка заахвочвае ўсіх сваіх маленькіх чытачоў да малітвы на ружанцы, якая з'яўляецца магутнай зброяй хрысціян і дарогай да святасці жыцця.**

### Ці ведаеш ты, як маліцца на ружанцы? Правер сябе.

**Побач з кожнай ружай напішы лічбу, якая адпавядае той малітве, што павінна быць на гэтых пацерах. Папрасі дарослых цябе праверыць.**




*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# Чаму няма трансляцый святой Імшы на радыё?



**Вернікі з розных куткоў Беларусі, асабліва пажылыя і хворыя людзі, не перастаюць задаваць пытанні, чаму з радыё зніклі рэгулярныя трансляцыі святой Імшы па нядзелях.**

Кожны католік абавязаны ўдзельнічаць у святой Імшы ва ўсе нядзелі і ў вызначаныя ўрачыстасці. Для многіх людзей радыётрансляцыя – практычна адзіная магчымасць далучыцца да малітвы Касцёла, паслухаць Божае слова і прыняць духоўную камунію.

Як паведаміў Catholic.by пробашч катэдральнай парафіі Найсвяцейшага Імя Марыі ў Мінску ксёндз-канонік Антоній Клімантовіч, у верасні радыётрансляцый зноў не будзе: іх проста няма ў эфіры, хоць у праграме па-ранейшаму пазначана перадача, што называецца “Каталіцкая пропаведзь”.

“Чаму няма Імшы на радыё? Гэта адбываецца дакладна не па нашай віне і не па тэхнічных прычынах.

Святая Імша па-ранейшаму цэлебруецца ў катэдры а 8.15 кожную нядзелю, апаратура працуе спраўна і сігнал ідзе, аднак трансляцыі няма.

Усе пытанні, чаму так адбываецца, – да кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі”, – сказаў святар.

Нагадаем, што раптоўнае спыненне трансляцый святой Імшы на радыё Генеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Юрый Касабуцкі расцаніў як факт пераследу Касцёла.

Запыты адносна таго, чаму перасталі адбывацца трансляцыі святой Імшы з мінскай катэдры, трэба скіроўваць на адрас: 220114, г. Мінск, вул.Чырвоная, 4 або на электронную пошту: radio1@tvr.by

***Пытанні можна задаць таксама па тэлефоне: +375 (17) 284 84 24***

## Ахвяруй на “Каталіцкі Веснік”

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце “Каталіцкі Веснік” фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасланць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:
*363*375295105172*2#
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.

Увага!

Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.

Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.

Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты “Каталіцкі Веснік”! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

# ФОТАФАКТЫ

16 верасня ў парафіі Св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне ардынарый Віцебскай дыяцэзіі біскуп Алег Буткевіч удзяліў 20 вернікам сакрамант канфірмацыі.

Звяртаючыся да кандыдатаў, біскуп Алег заахвоціў маладых вернікаў у цэнтр свайго жыцця заўсёды ставіць асобу Езуса Хрыста і заўсёды трымацца Яго.



19 верасня ў санктуарыі Маці Божай Шкаплернай у Гудагаі, якім апякуюцца айцы кармэліты босыя, біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч удзяліў сакрамэнт пасвячэння ў ступені прэзбітэрату брату Ігнату Падарэцкаму OCD. 20 верасня святар цэлебраваў у роднай гудагайскай святыні сваю першую святую Імшу — прыміцыю.



20 верасня ў парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім Біскуп Алег Буткевіч удзяліў сакрамант хрысціянскай сталасці 83 кандыдатам і пажадаў, каб Дух Святы здзейсніў змену ў сэрцах і жыцці кожнага, нагадаўшы словы св. Яна Паўла II: “Няхай сыйдзе Дух твой і адновіць аблічча зямлі. Гэтай зямлі!”



23 верасня ў парафіі святога айца Піа з П’етрэльчыны ў Гродне падчас адпустовай урачыстасці адбылося ўнясенне рэліквій святога Піа.

Цэлебрацыю Эўхарыстыі ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Гамілію прамовіў канцлер Гродзенскай курыі кс. Аляксандр Мацкевіч.



**Правільныя адказы на тэст:** 1 – Б; 2 – Б; 3 – В; 4 – Б; 5 – Б; 6 – Б; 7 – В; 8 – В; 9 – А; 10 – Б

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 4712

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 13300 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 25.09.2020 г. у 07.00

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь